PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 8 (1919) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 21 ЛЮТАГА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## МАФІЙНЫЯ ПАРАХУНКІ ЦІ ПАЛІТЫКА?

**4 студзеня, апоўдні ў беларускім клубе ў Варшаве меў месца бандыцкі напад. Пабітыя былі старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ Мікалай Алексяюкі кіраўнік клуба, шматгадовы член уладаў таварыства Хведар Галёнка. На другі дзень працаўнікі "Dipservice" - уласніка памяшкання - пачалі выносіць мэблю, разбіраць унутраныя сцены, не ўпускаючы ўсярэдзіну нікога з беларусаў. Такім чынам, фактычна, Беларускае грамадска-культурнае таварыства страціла сваю сядзібу і ў Варшаве.**

### БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ-РАЗБОЙНІКІ

Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі гэтае здарэнне выкарыстаў, каб ілюстраваць свой стары тэзіс аб звярыным твары капіталізму і капіталістаў /А. Барскі, "Беларускія капіталісты - Разбой", "Ніва" н-р 7/. Галоўнае месца ў яго апісанні займаюць гісторыя суполкі "Біяполь" і непаладкі паміж ейнымі кіраўнікамі, а толькі эпілогам усяе справы лічыць ён страту клуба на вуліцы Старасцінскай 1б /дарэчы, страцілі Вы сядзібу, якое не мелі "многа, многа гадоў", бо ўсяго 5 - ад лета 1987 года; раней беларускі клуб знаходзіўся ў іншым месцы, на вул. Сенатарскай 8/. Нічога затым дзіўнага, што старшыня не цікавіўся ані самім здарэннем, ані лёсам маёмасці сваёй арганізацыі на працягу звыш двух тыдняў пасля яго, хаця жыве не за гарамі, а ў той жа самай Варшаве.

Што іншага знаходзім ва ўспомненым ужо артыкуле.

### П'ЯНАВАТЫ ПРЭЗІДЫУМ

"Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ правёў спецыяльнае пасяджэнне, - піша старшыня, - запазнаўся з гэтай справай і дайшоў да вываду, што напад быў выразнай правакацыяй, арганізаванай Я. Салагубам".

Колькі слоў пра гэтае спецыяльнае пасяджэнне Прэзідыума. Адбылося яно толькі 22 студзеня, у пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве, падчас банкету, які наладзіў пасол Уладзімір Сянько. Члены Прэзідыума, дэ-юрэ на тэрыторыі іншай дзяржавы і, магчыма, нападпітку, набралі смеласці выносіць пратэст у гэтай справе самому ўраду Польшчы.

Толькі супраць каму і чаму будзе выступаць Прэзідыум? Супраць "выразнай правакацыі Я. Салагубы"?

### ПАМАЛЕНЬКУ, НЕ СПЯШАЮЧЫ...

Інфармацыя пра інцыдэнт пайшла ў Галоўнае праўленне ў Беласток ужо 5 студзеня, разам з просьбай назначыць спецыяльную камісію для праверкі стратаў у клубе. Такая камісія

Працяг на стар. 3



*Зімні краявід* **Фота Я. Целушэцкага**

## „ДУБІНЫ" І АМЕРЫКА

Чатыры гады таму назад па доўгім перарыве ў Канадзе ў Таронта была наладжана 18-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Гэтая сустрэча распачала новы воблік наступных мерапрыемстваў такога роду, бо ўпершыню ўдзельнічалі ў ёй афіцыйныя госці з Бацькаўшчыны. Вялікім здарэннем было выступленне ганаровага госця з Беластока спадара Сакрата Яновіча; і вельмі ветлівая публіка ўспрыняла выступленне ансамбля „Дубіны" з Гайнаўкі. Прысутным на сустрэчы таксама быў рэдактар адзінай у той час беларускай перадачы Польскага радыё з Беластока спадар Уладзіслаў Праховіч. Лічу, што гэты ўдзел афіцыйнай дэлегацыі з Беласточчыны краю меў асабліва важнае значэнне, у выніку чаго ўпершыню распачаўся сапраўдны культурны абмен паміж паўночнаамерыканскай эміграцыяй і Бацькаўшчынай. Дзевяць месяцаў пазней нью-йоркскі танцавальны гуртох „Васілёк" пасняхова наведаў Беласточчыну.

Справай запрашэння гасцей, пры поўнай падтрымцы і дапамозе галоўнага арганізатара 18-й Сустрэчы, Згуртавання беларусаў Канады, займалася новапаўсталае Канадыйскае таварыства „Беларусь". На працягу свайго існавання Таварыства прагрэсіўна (на маю думку) супрацоўнічала з культурна-адраджэнскімі арганізацыямі з Бацькаўшчыны. Адным з удалых дасягненняў гэтай арганізацыі была ініцыятыва і спансараванне беларусазнаўчага конкурсу „Беларусаведы' 89", праведзенага праз БГКТ і БАС, ці спансараванне выдання кружэлкі менскаму рок-гурту „Уліс" і г.д. Аднак найбольшым праектам у дзейнасці Таварыства было запрашэнне на 18-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі гасцей з Беласточчыны.

Думка, каб запрасіць за акіян ансамбль з Бацькаўшчыны зрадзілася пасля 17-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў 1986 г. З прычыны цяжкіх палітычных ускладненняў таго часу амаль немагчымым было запрасіць нейкі гурт з Беларусі. Такім чынам выбар паў на вакальна-інструментальны гурт „Дубіны", ансамбль, які быў практычна адзіным у Беластоцкім краі, што дзейнічаў на беларускай ніве.

Два гады да 18-й сустрэчы лістоўна спалучыўся я са старшынёй гэтага гурту спадаром Пятром Скепкам, прадстаўляючы яму прапанову запрашэння ягонай групы ў Канаду. Скепка з энтузіязмам успрыняў прапанову і запэўніваў, што да прыезду гурт павысіць сваё майстэрства найменей да саліднага аматарскага ўзроўню.

Так склалася, што мне як старшыні Таварыства „Беларусь" прыйшлося несці асноўны цяжар здзяйснення гэтага праекта. Вельмі цяжкім да вырашэння пытаннем было ўдала правесці кампанію пошукаў прыхільнікаў гэтага мерапрыемства і зборку фінансавых сродкаў. Для вырашэння гэтага пытання прыйшлося мне на працягу амаль усяго дасустрэчнага перыяду дзесяткі разоў наведваць адлеглыя гарады ў Канадзе і ЗША.

Запрашаючы „Дубіны" за акіян, спадзяваліся мы, што апрача выступлення на 18-й Сустрэчы, госці захочуць пабыць даўжэй, каб падмацаваць сваё эканамічнае становішча. У сувязі з тым, апрача падарожжа і медыцынскай страхоўкі, на працягу 3-х месяцаў гасцям былі запэўненыя памяшканні.

Журналіст У. Праховіч і ансамбль „Дубіны" прыехалі без інструментаў на паўтара месяца да сустрэчы. Тут жа паўстала пытанне, на чым ансамбль будзе іграць? Найтанней было б на час выступленняў інструменты ўзяць у арэнду, але ж гурту патрэба некалькі тыдняў, каб зазнаёміцца і практыкавацца на новых прыладах. Зарыентаваўшыся, што многатыднёвая арэнда патрэбнага абсталявання абыдзецца амаль у трэцюю частку коштаў новага абсталявання, я пастанавіў зрабіць усё магчымае, каб здабыць патрэбныя гро-

Працяг на стар. 6

## ПРЫВАТНЫЯ ШКОЛЫ — КАМУ І НАВОШТА?

Прапануючы амерыканскаму біёлагу са штата Іліной напісанне супольнай працы, беластоцкі прафесар не думаў, што напаткае пры гэтым на прыкрую неспадзеўку.

Як і трэба, амерыканец прыслаў неабходны матэрыял па лішайніках, а беластачанін зрабіў хімічны аналіз і напісаў працу, у якой разы чатыры спаслаўся на іншую сваю працу, дзе апісваў ён падобныя вынікі. Тая ранейшая праца была напісана на падставе матэрыялу, прывезенага з экспедыцыі на выспы Шпіцберген, а апублікавана была ў Аўстрыі.

Як вядома, выспы Шпіцберген ляжаць за палярным кругам, больш-менш у палове дарогі да паўночнага полюса. Яны настолькі вядомы ў вучоным свеце, што прафесар палічыў за непатрэбнае дадаваць, што належаць яны Нарвегіі.

Як і прынята сярод навукоўцаў, прафесар выслаў напісаную працу сааўтару ў Амерыцы, мяркуючы, што той, магчыма, дадасць да працы нейкія істотныя элементы.

Праз пару тыдняў праца вярнулася да яго назад. Прафесар адкрыў канверт і не паверыў сваім вачам. Ніякіх мерытарычных папраўак не было, але ўсюды, дзе толькі ўпаміналіся слаўтыя выспы, пасля слова „Шпіцберген" у дужках было дапісана слова „Аўстрыя". Адразу прафесар нават не зразумеў, чаму амерыканец змясціў Шпіцберген у Аўстрыі, але пасля ўцяміў, што праца ж была выдадзена там, дык, пэўна, небарака падумаў, што Шпіцберген — гэта нейкія аўстрыйскія горы, пакрытыя лішайнікамі.

— Пэўна, скончыў прыватную школу, вузкая спецыялізацыя, — падумаў расчараваны прафесар. — У дзяржаўнай усё ж мусіў бы пераадолець пэўныя бар'еры...

Вышэй прыведзеная ілюстрацыя была мне патрэбная дзеля адной мэты: каб выказаць свае негатыўныя адносіны да прыватных школ, з якіх пакуль што карыстае групка снобаў ды людзей, што пераважна ўзбагаціліся, далікатна кажучы, даволі дзіўным спосабам.

Што дае сённяшняя прыватная школа? Яе прыхільнікі крычаць у адзін голас: падрыхтоўвае да жыцця, навучае заходнім мовам, вядзе індывідуальныя заняткі, дазваляе найбольш займацца любімымі прадметамі, абмяжоўваючы да мінімума ўсялякую „непатрэбшчыну". У выніку вучні маюць больш свабоднага часу, а час заняткаў могуць прысвяціць толькі таму, што будзе ім патрэбна ў жыцці.

Але што будзе патрэбна? Ці хтосьці патрапіць прадбачыць у ста працэнтах усе кансеквенцы будучага, дарослага жыцця свайго дзіцяці?.. І ці прыватная школа ў папулярным выданні зможа загарантаваць яму стандарт культурнага чалавека, нават калі яе выпускнік зможа гаварыць на некалькіх мовах?

У сённяшніх прыватных школах настаўнікі не заўсёды рэпрэзентуюць вышэйшы ўзровень, хаця атрымліваюць за сваю працу значна

Працяг на стар. 2

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Исходя из наличия в Беларуси многих коренных народов, невозможно признать оправданными претензии ряда белорусских радикальных националистов на превращение государства Беларусь в национальное белорусское государство. Уж если они и могли бы претендовать на создание национальной государственности, то только в пределах территории исторического расселения белорусов в Беларуси. А это уже предполагало бы создание в ее рамках национального белорусского автономного государства, и соответственно, возможные подозрения представителей коренных этничных меньшинств в том, не приведут ли такие действия к появлению белорусского сепаратизма и к расколу государства.*

*(Збудінне, н-р 22 (62), газета грамадска-культурнага згуртавання „Палесьсе")*

Беларусы сепаруюцца ад Беларусі? Ну, да гэтага нават бальшавікі 30-х гадоў не дапялі.

* * *

*Усведамленне моладдзю сваёй нацыянальнай прыналежнасці ў асноўным адпавядае даным перапісу насельніцтва 1989 г. 82 працэнты апытанай моладзі ўказалі, што іх нацыянальнасць „беларус". Характэрна, што насуперак дэкларатыўным заявам лідэраў аб'яднання „Палесьсе" ні адзін з рэспандэнтаў Брэсцкага Палессе не ўказаў падчас ананімнага анкетнага апытання, што яго нацыянальнасць „паляшук" альбо „яцвяг".*

*(Звязда, н-р 5)*

* * *

*У Магілёве, у адной са сталовых, выяўлена фальшывая 100-рублёвая купюра Нацыянальнага банка Беларусі. Самадзейны мастак намаляваў яе фламастрамі на белай паперы. Калі беларуская грошы падрабляюць — значыць, яны сталі патрэбнымі.*

*(ЛіМ, н-р 4)*

Безумоўна, так. Але колькі яны вартыя, калі іх можна падрабіць фламастрамі на белай паперы?

* * *

*Бязмен — зусім не галоўная наша прадукцыя.*

*(Звязда, н-р 15)*

* * *

*Камісія Мінскага гарвыканкама вырашыла перайменаваць вуліцу Свярдлова ў вуліцу Вацлава Ластоўскага, Мяснікова — назваць у гонар князя Глеба Менскага, вуліцу Берсана ў вуліцу Адама Станкевіча. У будучыні памяняюць свае назвы таксама вуліцы Савецкая, Камсамольская і Інтэрнацыянальная.*

*(Чырвоная змена, н-р 8)*

„Чырвоная змена" паведамляе пра бел-чырвона-белыя змены, так бы мовіць...

* * *

*Апошнім часам справы веры цікавяць нават тых, каму раней гэта не прыходзіла да галавы: былыя камсамольцы, цікія клеркі, ўчарашнія старшыні калгасаў і цяперашнія парламентарыі... Святароў сёння бачым у прэзі-дыумах, дэлегацыях, на рэпрэзента-цыях і канферэнцыях усіх узроўняў...*

*(ЛіМ, н-р 4)*

Не было б у гэтым нічога асаблівага, калі б не падсвядомае спадзяванне ўсіх гэтых камсамольцаў і былых старшыняў, што святары зоймуць у грамадстве вакансіі па сакратарах ідэалагічнага сектара КПБ.

* * *

*Mszami za spokój duszy oraz uroczystym sympozjum w UJ uczcili polscy monarchiści pamięć króla Francji Ludwika XVI zgilotynowanego podczas rewolucji francuskiej, dokładnie 200 lat temu.*

*(Polityka, nr 5)*

Прыміце ад нас, шаноўныя графы, словы шчырага спачування.

* * *

*Żona jednego z więźniów dostała zaświadczenie od seksuologa, że pilnie potrzebuje kontaktu intymnego z więźniem.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 29)*

* * *

*Na radzie Wydziału Humanistycznego UMCS w Lublinie zatwierdzono powołanie Zakładu Filologii Białoruskiej, którego jestem kuratorem* — **піша вучоны-украініст Міхал Лэсіў.** *І далей: Nie musiałem udowadniać, że gwary mieszkańców byłych powiatów Siemiatycze, Bielsk Podlaski i Hajnówka mają cechy pozwalające zaliczyć je do gwar ukraińskich, bo jest to udowodnione przez uczciwych badaczy.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 29)*

Чытаючы такое, неадольна пхаецца ў галаву думачка, ці назоў Zakład Filologii Białoruskiej ва універсітэце ў Любліне не з'яўляецца адно пакрыўкай яшчэ аднаго Zakładu Filologii Ukraińskiej.

* * *

*Nie myślałem, że w Polsce można kogoś nagrodzić za działalność białoruską. Czułem się osamotniony i nie zrozumiany. Ta nagroda potwierdza moje przekonanie, że to co robiłem przez całe swoje życie miało sens, że to było potrzebne* — **сказаў Сакрат Яновіч пра ўзнагароджанне яго польскім фондам POLCUL.**

*(Kurier Poranny, nr 21)*

Перакладаўшы гэтае выказванне на элітарную мужыцкую мову, мы зразумелі наступнае: Сакрата ў ягонай беларускасці ўтрымоўваюць палякі. Каб не яны, свае даўно ўжо звялі б яго са свету. Białoruś, Białoruś.... to nie jest sprawa dla mięczaków.

* * *

Паводле газеты „Rzeczpospolita" (nr 28) „Ніва" з'яўляецца выданнем БГКТ, а галоўнага рэдактара завуць Тадэуш. Здаецца нам, што выйшла нябла-га. Бо магло б быць і так: рэдактар называецца Пан Тадэуш, а выдавецтва — Dziady.

## ПРЫВАТНЫЯ ШКОЛЫ — КАМУ І НАВОШТА?

☛ *Працяг са стар. 1*

большыя грошы. Часта гэта бываюць людзі, якія страцілі працу ў іншым месцы.

І цяпер справа, ад якой, магчыма, трэба было б пачаць. Каму ствараюцца прыватныя ці грамадскія школы? З якой кішэні можна заплаціць некалькі мільёнаў за адно дзіця? З мазольнай працы селяніна, рабочага? А мо з разумовай працы навукоўца ці журналіста? Для якіх дзяцей створана ў Варшаве школа за 20 мільёнаў злотых у месяц — для суперздольных ці суперслабых? І ўрэшце, ці заплаціўшы вялікія грошы, можна быць упэўненым, што дзіця атрымае вялікія веды? А мо справа тут толькі ў паперцы?

Пры ўсім гэтым нельга забывацца, што кураторыя пакрывае значную частку выдаткаў гэтых школ, але і так многія з іх сядзяць у даўгах.

Ёсць адзін праменьчык для нас, на які варта было б звярнуць тут увагу. Прыватная школа можа рабіць шмат камбінацый. Можа вучыць абслугоўваць камп'ютэры і размаўляць на розных мовах, можа замест гімнастыкі ўвесці танец. Але можа быць таксама каталіцкая, атэістычная, а нават беларуская, і на гэта апошняе я хацела б звярнуць асаблівую ўвагу.

Шкада толькі, што нашыя людцы аддаваць сваіх дзетак у беларускія школы неяк не спяшаюцца...

**АДА ЧАЧУГА**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### АДШУКВАЕЦЦА СПАДЧЫНА

Каталог страчаных дакументаў і архіўных матэрыялаў выдадзены камісіяй "Вяртанне" Беларускага фонду культуры. Цяпер гэтай арганізацыі, якая займаецца пошукам нацыянальных скарбаў застаецца толькі ўдакладніць, дзе яны "паасядалі".

### ГЕРОІ ВЯРТАЮЦЦА

Новыя помнікі ў гарадах і вёсках Беларусі - яшчэ адна прыкмета вяртання беларусаў да сваіх каранёў.

Паводле папярэдніх дадзеных, на галоўнай плошчы ў Смаргоні будзе ўстаноўлены бюст Францішка Багушэвіча, у Гародні - помнікі Каліноўскаму і Максіму Багдановічу, у Полацку - Сімяону Полацкаму, у Крычаве - кіраўніку сялянскага паўстання ў 1743-44 гадах Васілю Вашчылу.

### КРЫВАВЫ БІЗНЕС

Гібельны недахоп донарскай крыві для клінік і бальніц прымусіў урад Беларусі ўстанавіць новыя цэны на гэты спецыфічны тавар. Адзін літр крыві каштуе сёння 1800 рублёў.

Калі раней бязвыплатныя донары ўзнагароджваліся талонам на бясплатны абед, дык цяпер яны атрымалі магчымасць выбіраць: прадукты харчавання ці грошы /7,5 працэнта ад мінімальнай заработнай платы/. У адзін працэнт ад той жа сумы ацэнены нават кроплі вадкасці, неабходнай для судова-медыцынскіх даследаванняў.

### МУЖНЕЙЦЕ, ДЗЕЦЮКІ!

У гонар 130-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага Маладзечанскае аддзяленне Таварыства беларускай мовы звярнулася да жыхароў рэспублікі з прапановай абвясціць апошнюю суботу лютага Днём мужнасці.

### АД ДЭПУТАТАЎ - ПАЭТУ

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін рашэннем сесіі Ушацкага Савета народных дэпутатаў удастоены звання "Ганаровы грамадзянін Ушацкага раёна".

### ПЕРАКУЕМ МЯЧЫ НА ЦЯГАЧЫ

Згодна міжнароднаму пагадненню па скарачэнню звычайных узбраенняў днямі ў Барысаве пачаўся другі этап знішчэння ваеннай тэхнікі. На Барысаўскім танкарамонтным заводзе будзе знішчана і пераабсталявана для мірных патрэб 24 танкі Т-62 і 30 баявых машын пяхоты. Дарэчы, за гэтай акцыяй уважліва сочаць ваенныя эксперты ЗША, Нямеччыны, Англіі і Францыі а таксама некаторыя замежныя дыпламаты.

### САМІ З ПАСЛАМІ

Днямі Беларусь далучылася да Гаагскай канвенцыі "Аб адмене консульскай легалізацыі дакументаў". Цяпер тым, хто ад'язджае з Беларусі на пастаяннае месца жыхарства за мяжу для афармлення адпаведных дакументаў не трэба звяртацца ў пасольствы гэтых краінаў у Маскве.

### СЛАВЯНЕ, ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ!

Зусім верагодна, што ў хуткім часе на беларускай зямлі народзіцца новая міжнародная арганізацыя. Днямі выканаўчая рада патрыятычнага руху "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў" /БЗВ/ звярнулася да грамадскіх і палітычных арганізацый славянскіх дзяржаў з заклікам аб'яднацца ў Славянскі дэмакратычны форум /СДФ/. Мэта арганізацыі - усталяванне атмасферы даверу і супрацоўніцтва паміж славянскімі краінамі, прадухіленне канфліктаў паміж імі, развіццё эканамічнага і палітычнага супрацоўніцтва, а таксама спрыянне ўзаемаўзбагачэнню культур усіх славянскіх народаў.

### РАНА ЧАРНОБЫЛЯ БУДЗЕ КРЫВАТОЧЫЦЬ АМАЛЬ ДВА СТАГОДДЗІ

Цікавыя падлікі матэрыяльных затрат, нанесеных Беларусі аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, зрабіў вядомы ў рэспубліцы вучоны, народны дэпутат Анатоль Волкаў. Ён падлічыў, што чарнобыльская трагедыя абыйшлася нашай рэспубліцы ў 171 мільярд долараў ЗША. Такім чынам, каб ліквідаваць вынікі Чарнобыля, зыходзячы з сённяшніх эканамічных рэалій, Беларусі спатрэбіцца ажно 171 год.

### КАБ КРЫХУ ПІЎ, НЕ КУРЫЎ, А ЯШЧЭ ЖАНЧЫН ЛЮБІЎ

Па ініцыятыве выдавецка-паліграфічнай кампаніі "Эрыдан" беларускія сацыёлагі правялі даследаванні па вызначэнню рэйтынгу палітычных дзеячоў рэспублікі. У тройку найбольш папулярных палітычных дзеячоў традыцыйна ўвайшлі старшыня парламента С. Шушкевіч, лідэр БНФ З. Пазняк і прэм'ер-міністр В. Кебіч.

Складаючы ідэальны партрэт будучага прэзідэнта Беларусі, большасць запытаных жадала б бачыць яго артыстычным, спартыўным, а галоўнае, каб мог выпіць, не курыў і любіў жанчын.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**





## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Будаўнік — прыгожая прафесія.
- ✓ Багацце нетраў Беларусі.
- ✓ Ці Панфілюк плявае на "Ніву"?
- ✓ Вялікі пост і яго асаблівасці.

Гаспадар каментуе

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ

У мяне радыёпрыёмнік пераважна настроены на Беласток — з раніцы да вечара. Мала калі прапускаю беларускія перадачы. Мне здаецца, што цяпер перадачы „Пад знакам Пагоні" сталі манатоннымі, рэдка калі пачуеш песню „Люблю наш край, старонку гэту..."

Калісьці, пры Віктару Рудчыку (вечная памяць яму) перадачы былі больш жывыя, намнога цікавейшыя. У іх гаварылася пра справы, якімі жыло грамадства, часта спявалі „Дубіны", „Хлопцы-рыбалоўцы", „Дубочкі" з Дубяжына, „Тыневічанкі", „Згодныя макі" з Райска і іншыя. Падумайце, дарагія журналісты, як змяніць перадачу, як зрабіць яе цікавейшай. Прыдалося б крыху гумару, песень, вестак з Беласточчыны і Беларусі і, час ад часу, хай заспявае Люба Гаўрылюк.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

Ліст у рэдакцыю

### ПАВАЖАНЫ РЭДАКЦЫЙНЫ КАЛЕКТЫЎ!

Здалёку шлю словы ўдзячнасці і пашаны за пасрэдніцтва ў распаўсюджванні гродзенскай „Пагоні".

З радасцю скарыстаў бы я з доступу і да менскіх выданняў — крывёю пісанай „Літаратуры і мастацтва", „Спадчыны" ці іншых (у апошнім часе доступу да іх няма нават праз Маскву!).

Далучаю пасведчанне паштовай аплаты на 20 нумароў „Пагоні" — выдадзеных дагэтуль і наступных.

З павагай і ўдзячнасцю

**ІЛІРЫК ВАРАЎКА**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Паважаны спадар Ілірык, рэдакцыя „Пагоні" даслала нам толькі першы нумар свайго двухтыднёвіка за гэты год. Сябры з Гродна абяцалі дасылаць і наступныя нумары „Пагоні". Калі мы іх толькі атрымаем, не забудзем пра Вас. А можа ўдасца нам зацікавіць гродзенскую рэдакцыю непасрэднай пасылкай свайго двухтыднёвіка на Ваш адрас?

# ФАБРЫКА НАРКОТЫКАЎ У БЕЛЬСКУ

Сродкі масавай інфармацыі ў цэлай Польшчы паведамілі, што ў Бельску паліцыя ліквідавала першую ў Польшчы лабараторыю для прадукцыі амфетаміну. Пры чым, журналісты апярэджвалі адзін аднаго, прыводзячы ўсё больш сенсацыйныя, неверагодныя факты. Газеты пісалі пра цэлую міжнародную арганізацыю, якая мела б займацца распаўсюджваннем наркотыку з Бельска. Друкаваліся астранамічныя велічыні лічбы, што меліся адпавядаць будучым заробкам вытворцаў і гандляроў.

— *Адкуль яны ўзялі такія інфармацыі,* — здзіўляецца начальнік крымінальнага аддзялення паліцыі ў Бельску Рамуальд Альшэўскі, — *пра шмат што я ўпершыню даведаўся з прэсы.*

Што гэта за мікстуру хацелі рабіць у Бельску і чаму такое вялікае зацікаўленне справай? Адказ прабаваў я знайсці ў мудрых кніжках. „Mała encyklopedia medycyny" (PWN, Warszawa 1988) дае такое тлумачэнне:

„Amfetamina (benzedryna, psychedryna) — lek psychotropowy; silnie pobudza ośrodkowy układ nerwowy, znosi stany zmęczenia i senności, zwiększa uwagę i zdolność koncentracji; była stosowana jako środek dopingujący; łatwo prowadzi do przyzwyczajenia (amfetaminomania); obecnie nie stosowana w lecznictwie". З гэтага вызначэння відаць, апрача ўласцівасцяў лякарства, таксама тое, чаму яго цана такая высокая (калі ўжо не выкарыстоўваецца ў медыцыне, дык яго колькасць на рынку, пэўна, даволі абмежаваная, а якасцяў сваіх, мабыць, дагэтуль не страціў).

А што ў сапраўднасці здарылася ў Бельску?

— *Бясспрэчны факт гэта тое, што выкрылі мы лабараторыю,* — кажа камендант Міхал Карпюк. — *Ці пачалася ўжо там прадукцыя, я не ўпэўнены, хаця, з другога боку, не магу на сто працэнт сцвердзіць, што не. Затрымалі мы падчас вобыску двух чалавек, адзін з якіх чакае высвятлення справы ў арыштце. Грамадзянін гэты з вышэйшай хімічнай адукацыяй. І гэта ўжо ўсе факты, якія сёння я магу пералічыць, астатняе — пакуль што, або тайна, або спекуляцыя. Ага, яшчэ магу дадаць, што не веру ў высокае пакаранне абвінавачанага („Gazeta Wyborcza" напісала, што пагражае нават — 10 гадоў зняволення). Сённяшні Закон аб пазбяганні наркаманіі надзвычай ліберальны, можаце гэта падкрэсліць, калі будзеце пісаць. Часта вяжа ён рукі паліцыі, нельга, напрыклад, нікога арыштаваць за тое, што ў яго ёсць наркотыкі. Трэба яму яшчэ даказаць гандаль імі, а гэта не заўсёды лёгка даецца.*

Каб часам зноў не аказалася, як гэта даволі часта бывае, што з вялікага гуку няма чаго ўзяць у руку. Вялікая на сённяшні дзень афёра можа закончыцца ўсяго правінцыйным судовым працэсам, без асаблівага зацікаўлення і значных прысудаў. Хіба што будзе знойдзены ў гэтай справе новы след.

**ак**

### ЦВЫРЫКАЮЧАЯ ПАМЯТКА

Апошнім часам турысцкім атракцыёнам у Белавежы з'яўляюцца тры магнітафонныя касеты з запісамі галасоў птушак. Касеты прадаюцца ў Прыродазнаўчым музеі, а найграў іх Здзіслаў Палчынскі з Пушчыкова, што ля Познані.

Першая касета „Галасы птушак Велькапольскага нацыянальнага парку" паявілася ў 1990 г. Гэты запіс кансультаваў д-р Кшыштоф Волэк, які шмат гадоў працаваў у Белавежы. Касета рыхтавалася ў гадах 1980—1989 і прысвечана яна памёршаму ў 1989 г. арнітолагу Антону Віснеўскаму. На ёй запісаны галасы 38 відаў птушак — жыхароў лясоў, азёраў, чаратоў, лугоў, палёў і агародаў.

У 1991 г. выйшла наступная касета — „Птушыны канцэрт". На ёй запісаны галасы 20-ці найлепшых крылатых спевакоў. Яна і карыстаецца найвялікшым поспехам у турыстаў.

Трэцяя касета („Галасы птушак II") паявілася ў продажы ў мінулым годзе. Запісы да яе З. Палчынскі рабіў у гадах 1985-1992 у Крушэве над Нарвай, Сосні над Бебжай, у Белавежы, на Сувальшчыне (ваколіцы Дальняга Лесу і Глыбокага Броду), а таксама ў Велькапольскім нацыянальным парку і ў Новым Замку над Барыччу. Гэтая касета лічыцца працягам першай з названых. На ёй запісаны 31 голас, а ўдабавак і жабіны канцэрт.

**ПЁТР БАЙКО**

# ХТО І КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЕ

Апошнім часам у польскіх часопісах і газетах часта змяшчаецца аналіз заробкаў усіх прафесіянальных груп пасля 3 гадоў існавання рыначнай эканомікі. Вядома, што найбольш дакладна можна палічыць зарплату працаўнікоў такіх прафесій, якія знаходзяцца на ўтрыманні дзяржаўнага бюджэту, а толькі прыблізна акрэсліць прыбыткі людзей, якія вядуць свой прыватны бізнес.

На апошняй старонцы папярэдняга нумара „Нівы" быў змешчаны дакумент, які паказваў зарплату аднаго з журналістаў нашага тыднёвіка ў 1993 г. Хаця напісана там лічба 1600 тыс., гэта толькі палова яго патэнцыяльнага і рэальнага прыбытку (не ўлічаны там ганарар за апублікаваныя матэрыялы), але і так варта параўнаць яго з заробкамі іншых прафесіянальных груп. Не будзем раўняцца да нашых калегаў журналістаў хаця б з беластоцкіх рэдакцыяў, бо іх прыбытак ёсць незалежны ад дзяржаўнага бюджэту.

Паводле доследаў, якія вяліся Інстытутам грамадскіх студыяў Варшаўскага універсітэта традыцыйна найгорш было (і будзе) працаўнікам асветы і аховы здароўя. Пачынаючы медыцынскую практыку лекар зарабляў у снежні 1992 г. ад 1700 да 2500 тыс. зл., а спецыяліст з вялікім стажам, які працуе ў бальніцы, ад 4 да 7 мільёнаў зл. Медсястра ў шпіталі зарабляла ад 2500 да 4500 тыс. і трошку менш у іншых установах аховы здароўя.

Настаўнік з вышэйшай адукацыяй пасля 20 гадоў працы мог спадзявацца на 2550 тыс., а яго пачынаючы працу калега на 2100 тыс. зл. Выкладчык ва універсітэце са званнем прафесара мог зарабіць ад 3300 да 5300 тыс. зл., а пачынаючы працу асістэнт ад 1400 да 2700 тыс. зл. Сярэдняя плата ў т.зв. сферы культуры (бібліятэкі, музеі, галерэі) была ў межах 2300—2700 тыс. зл. Прыведзеныя тут сумы гэта плата брута. Тое, што працаўнік атрымоўвае на руку трэба паменшыць на 20 працэнтаў.

### І ТЫ БУДЗЕШ ПАЛІЦЫЯНТАМ

Сярэдняя плата ў паліцыі гэта 5 мільёнаў зл., пры тым пачынаючы працу капрал атрымоўвае каля 4 мільёнаў, сяржант 5 мільёнаў, а афіцэр, залежна ад рангу паста, які займае, ад 7 да 13 мільёнаў. У арміі падобна. Малодшы унтэр-афіцэр (плютановы) атрымоўваў у снежні 1992 г. каля 4 мільёнаў зл., паручнік 5.500 тыс., палкоўнік 9 мільёнаў, генерал 13 мільёнаў.

Малады хлопец пасля заканчэння ліцэя, які рашыўся быць унтэр-афіцэрам атрымаў пасля 2 гадоў службы больш чым прафесар ва універсітэце, аўтар некалькіх навуковых прац, або лекар адказны за жыццё хворых.

### НАЙЛЕПШ БЫЦЬ ВОЙТАМ

Плату войтаў, бургамістраў, прэзідэнтаў гарадоў вызначаюць самаўрады. Тут дыяпазон заробкаў даволі шырокі, у залежнасці ад прынцыпаў гаспадарання грамадскім грашом. Войтам плацяць ад 6 да 13 мільёнаў. Гэта плата роўная заробкам генерала дывізіі. Намеснікі войтаў, кіраўнікі аддзелаў гмінных адміністрацыі зарабляюць ад 5 да 11 мільёнаў зл., а радавыя ўраднікі ад 2,5 да 4 мільёнаў злотых.

Паводле доследаў вышэй успомненага Інстытута 87 працэнтаў грамадства Польшчы выказваецца за тое, каб дзяржава гарантавала кожнаму чалавеку працу і плату. 70 працэнтаў жыхароў ёсць перакананых, што жывецца сёння горш, чым у камуністычную эпоху.

Дзядзя Ленін, што вы на гэта: паліцыянт зарабляе ў два разы больш чым настаўнік, а грамадскі настрой набліжаецца да рэвалюцыйнага.

**МІКОЛА БУСЛОВІЧ**

# МАФІЙНЫЯ ПАРАХУНКІ...

☛ *Працяг са стар. 1*

была створаная роўна праз 7 дзён, 12 студзеня. Праверку сваёй маёмасці камісія зрабіла праз наступных 7 дзён, 19 студзеня... цераз вокны, бо адміністратар пасёлка на вул. Старасцінскай Аліцыя Зыховіч прадстаўнікоў БГКТ усярэдзіну не ўпусціла. Але ўжо і праз шыбы відаць было, што далёка не ўсё з аснашчэння клуба засталося на месцы. Зніклі кудысьці шыльды, не было на сваім месцы фіранак і заслонаў, некаторыя сценкі былі разабраныя, сарваная была панель, не хапала шмат чаго з мэблі і клубнай апаратуры.

### ЗА ДРЭННЫЯ ПАВОДЗІНЫ

Піша Алесь Барскі: "Такім чынам Салагуба "перадаў" ключы ад нашага памяшкання "Dipservice". Проста і ясна - пабіліся беларусы, дык трэба іх неяк пакараць. Толькі хто гэта бачыў, каб ад кагосьці забіралі памяшканне ано за нейкую бойку ў ім. А можа тут была яшчэ якая іншая прычына? Кажуць людзі, калі што не яснае, дык амаль напэўна ў справу ўмешаны грошы.

Колькі ўжо месяцаў БГКТ не плаціла арэнды за гэты клуб? У колькі дзесяткаў /а мо сотак/ мільёнаў выраслі даўгі таварыства ў "Dipservice"?

Уласнік, не бачачы шанцаў на атрыманне сваіх грошай, узяў і забраў памяшканне. Іншая справа, у якіх абставінах і ў якім стылі ён гэта зрабіў.

### ШТО МЫ ВЕДАЕМ НАПЭЎНА?

Несумненна, меў месца бандыцкі напад на клуб БГКТ і былі пабіты Х. Галёнка і М. Алексяюк. Апошні, у выніку пабояў быў накіраваны на лячэнне ў шпіталь, але адмовіўся ад яго, баючыся за лёс жонкі і дзяцей. З пашкоджанымі ныркамі і пячонкаю апынуўся ён на месячным лекарскім звальненні.

Несумненна, у нападзе прымаў удзел Яўген Салагуба - член і актыўны дзеяч БГКТ у Варшаве ды, сваёю часу, адзін з кіраўнікоў суполкі "Бiяполь" і яе штатны працаўнік. Да змены грамадска-палітычнай сістэмы ў Польшчы Яўген Салагуба працаваў у органах Міністэрства ўнутраных спраў.

Несумненна, паліцыя не квапілася ўмешвацца, хаця ўжо пад канец нападу была на месцы здарэння. Калі М. Алексяюк і Х. Галёнка выбеглі з разбуранага клуба/між іншым, разбітая шыба/ у парванай вопратцы, са слядамі ўдараў на целе, паліцыянты спакойна размаўлялі з адміністрацыяй і... Я. Салагубам. У камісарыят на вул. Мальчэўскага павезлі іх трох: Галёнку, Алексеюка і Салагубу, але гэты трэці дзесці потым дзеўся. Паказанні Галёнкі і Алексеюка ўзялі толькі на іх упартае патрабаванне, пасля інтэрвенцыі ў каменданта Збігнева Рудзінскага.

Несумненна, уласнік - "Dipservice" - пераняў памяшканне ў незвычайных абставінах, у дзень пасля нападу, перад аглядам месца злачынства паліцыяй. Выносячы маёмасць і разбіраючы ўнутраныя сцены - маўляў, дзеля правядзення рамонту - працаўнікі гэтай установы зацерлі ўсе сляды злачынства. Пры тым усім, яшчэ раніцай 5 студзеня дазволілі яны Яўгену Салагубу, разам з калегам, увайсці ў клуб і вынесці адтуль нейкія паперы.

### А ШТО МОЖА БЫЦЬ ПРАДМЕТАМ НАШАЙ СПЕКУЛЯЦЫІ?

Як гэтыя дзеянні "Dipservice" стасуюцца да абавязваючых у Польшчы законаў? Ці ўзлом у клуб і пабіццё беларускіх дзеячоў мелі нешта супольнага са стратай БГКТ сваёй сядзібы, ці былі гэта дзве незалежныя ад сябе акцыі, якія толькі сышліся ў часе?

Ці гэта Яўген Салагуба выкарыстаў свае старыя сувязі, каб прыкрыць нейкія махлярствы ў фірме, ці яго выкарысталі, каб турнуць беларусаў з аб'екта ў прэстыжным, дыпламатычным раёне сталіцы?

І ўрэшце, што на ўсё гэта пракуратура?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# КРОК НАПЕРАД

Беларускія дзеячы ў Польшчы даўно ўжо пераканаліся, што намнога лягчэй размаўляецца з прадстаўнікамі дзяржаўнай улады ў Варшаве чым у Беластоку. Там ніхто не стараецца даказаць, што ён паляк, бо ён ім ёсць і здаецца, што з гэтай „закамплякселасці" мясцовыхураднікаў узнікаюць усе клопаты ў вырашэнні беларускіх праблемаў.

Хаця мяняюцца кабінеты, прэм'еры і міністры, палітыка ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцяў застаецца такая ж сама і трэба сказаць, што імкнецца трымацца міжнароднага права, трактатаў і пагадненняў. Фінансава дзяржава не зашмат можа дапамагчы, але стварае гарантыю свабоднай дзейнасці ў кожнай галіне — зразумела, калі такая дзейнасць не парушае канстытуцыйнага парадку.

Каб зарыентавацца, якімі праблемамі жывуць грамадзяне Польшчы, якія аднак не з'яўляюцца палякамі, намеснік прэм'ер-міністра Павел Ланчкоўскі запрашаў прадстаўнікоў усіх нацыянальных меншасцяў на размову ў Варшаву. Сустрэча з беларусамі адбылася 1 лютага 1993 г., а ўдзельнічалі ў ёй з нашага боку старшыня Галоўнай рады БДА Алег Латышонак, старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі і ніжэй падпісаны. Апрача віцэ-прэм'ера і яго супрацоўнікаў у сустрэчы прысутнічалі віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела і дырэктар Дэпартамента па справах нацыянальных меншасцяў Багуміла Бэрдыхоўска.

Нашыя праблемы менш-больш вядомыя чытачам „Нівы" і таму прадстаўляю толькі ў агромным скарачэнні тое, што мы сказалі гаспадарам сустрэчы. Старшыня БГКТ гаварыў пра цяжкае становішча беларускага фальклорнага руху, пра фінансавыя клопаты пры пабудове музея, пра патрэбу будовы новых кантрольна-прапускных пунктаў на польска-беларускай мяжы, звяртаў увагу на сяброўскія адносіны паміж беларускім і польскім народамі на працягу стагоддзяў.

Алег Латышонак сказаў пра палітычную сітуацыю на Беласточчыне і патэнцыяльную небяспеку ўзнікання міжнацыянальных канфліктаў. Інцыдэнты, якія сёння здараюцца, напрыклад варварскае знішчэнне бельскай „тройкі" (магчыма, што гэта толькі вынік дзейнасці жулікаў, — гаварыў старшыня БДА), ствараюць сітуацыю падазронасці, выклікаюць нядобрыя эмоцыі, асабліва калі беластоцкая куратарыя далей праводзіць палітыку, якая вядзе да абмежавання беларускага школьніцтва. Алег Латышонак закрануў таксама справу Супрасльскага манастыра аргументуючы, што нягледзячы на тое, ці ён быў раней праваслаўны ці уніяцкі, заўсёды існаваў як цэнтр беларускай духоўнасці. Цяпер да сувязі з беларускасцю прызнаецца толькі Праваслаўная царква ў Польшчы, таму БДА бачыць толькі адзін справядлівы выхад — перадаць манастыр Царкве.

Мне прышлося расказаць пра эканамічную сітуацыю ўсходняй Беласточчыны, беспрацоўе, апусцелыя вёскі і грамадска-псіхалагічныя паслядоўнасці такога стану.

Усе мы выказваліся на тэму беларускага школьніцтва і яго невясёлыя перспектывы. Прадставілі мы прапановы зменаў у гэтай галіне, пачынаючы з праграмаў, падручнікаў і сістэмы адукацыі настаўніцкіх кадраў.

Выслухаўшы сваіх беларускіх размоўцаў на ўсе пастаўленыя пытанні адказвалі віцэ-прэм'ер П. Ланчкоўскі і віцэ-міністр М. Ягела. Едучы ў Варшаву мы лічылі, што гэты візіт будзе мець больш куртуазны характар і што істотных рашэнняў для нас ён не прынясе. Аднак тое, што мы пачулі ад прадстаўнікоў польскага ўрада, гучала даволі аптымістычна.

Віцэ-прэм'ер П. Ланчкоўскі спачатку паінфармаваў нас, што цяжкая фінансавая сітуацыя не дазваляе дзяржаве дапамагаць нацыянальным меншасцям настолькі, наколькі яны патрабуюць. Урад аднак зацікаўлены ў тым, каб усе грамадзяне адчувалі сябе нармальна. Таму падтрымоўваць ён будзе ўсе працэсы, якія спрыяюць развіццю культуры і асветы нацыянальных меншасцяў, у тым ліку і беларусаў. У справе беларускага школьніцтва віцэ-прэм'ер абяцаў правесці размову з адказнымі асобамі ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі і зарыентавацца ў магчымасцях дапамогі. Даў зразумець, што справа Супрасльскага манастыра хутка будзе вырашана, і што беларусы павінны быць задаволены гэтым рашэннем. Віцэ-міністр М. Ягела сказаў пра запланаваную ў бюджэце Міністэрства культуры і мастацтва датацыю ў 600 мільёнаў злотых на музей у Гайнаўцы, фінансавую дапамогу для „Нівы" і падтрымку культурных мерапрыемстваў арганізаваных беларускім асяроддзем.

Здавалася, што ўсе выйшлі з гэтай сустрэчы задаволенымі. Мы, бо адчулі прыхільнае зацікаўленне нашымі праблемамі, гаспадары — бо праўдападобна адчулі нашае разуменне складанай сітуацыі ў дзяржаве. Агулам асталося добрае ўражанне. Ці гэта многа, ці мала? Думаю, што ўсё такі гэта крок наперад.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

# GRZANIE TYGLA

*"Gazeta Wyborcza" апублікавала артыкул беластоцкага журналіста і пісьменніка Януша Нічыпаровіча, які ў польскай прэсе з'яўляецца унікальнай публікацыяй. Упершыню хтосьці адважыўся напісаць тэкст, які не з'яўляецца пахвальным гімнам нацыянальнай палітыцы беластоцкіх уладаў, а толькі прадстаўляе факты без міфалагічных дадаткаў, якія найчасцей пісаліся пры такой нагодзе. Разумеем, што такі артыкул у беластоцкім друку праўдападобна меў бы цяжкасці пабачыць белы свет. Нашым чытачам прапануем фрагменты, якія адлюстроўваюць палітыку ўладаў адносна т.зв. "украінізацыі" Бельшчыны.*

Рэд.

"Przed kilku laty na wydziale filologii rosyjskiej w białostockiej filii UW rusycyści dojeżdżający z UMCS w Lublinie, gdzie są silne ośrodki ukraińskie, zaczęli zajmować się gwarą mieszkańców wschodnich terenów Białostocczyzny. To wtedy właśnie profesor Michał Lesiów zaczął udowadniać, że "tutejsi" mówią po ukraińsku, a nie po białorusku. Polityka wmieszała się w to sama /.../.

Konflikt wokół szkół tli się w Bielsku od dawna. W budynku po byłym komitecie PZPR dyrektor szkoły podstawowej z białoruskim językiem nauczania Bazyli Leszczyński chciał uzyskać dodatkowe pomieszczenia, bo dzieci w jego szkole uczą się na trzy zmiany. Ale kuratorium w Białymstoku w porozumieniu z władzami oświatowymi z Bielska zadecydowało inaczej. Zorganizowało szkołę podstawową czteroklasową z polskim językiem nauczania. Kurator Piotr Litermus twierdzi, że nie prowadzi polityki narodowościowej na własną rękę. "Budynku po PZPR dyrektorowi Leszczyńskiemu nie oddam za żadne skarby - mówi kurator. - Gdyby rodzice domagali się, to utworzymy w tej czteroklasówce klasy z białoruskim językiem. Ale mogę mieć też i inne propozycje. Jeśli ktoś oficjalnie zwróci się np. o utworzenie klas z ukraińskim językiem, to nie widzę przeszkód". /.../

Konkurencyjna audycja w języku ukraińskim powstała wskutek przeprowadzenia referendum. Zebrano na Białostocczyznie 22 tys. podpisów i skierowano do Radiokomitetu. W Radiokomitecie /.../ znalazły się pieniądze. Podobno w jednej gminie Orla zebrano trzy tysiące podpisów... Może podpisywały się niemowlaki? /.../

Jeśli grupa ukraińska prosi /miejscowe władze - рэд./ o dofinansowanie, bez trudu dostaje pieniądze. /.../ Od lat istnieją na Białostocczyźnie białoruskie zespoły jak Orzeszkowo czy Czeremcha. Śpiewają po białorusku, a pieniądze dostają od Ukraińców. Ostatnio zapraszani są na ukraińskie imprezy, podsuwa się im ukraiński repertuar, czasem wmawia się, że śpiewają po ukraińsku. Przecież to polityka...".

JANUSZ NICZYPOROWICZ
*"Gazeta Wyborcza", nr 22*

# ТОЛЬКІ НОВАЕ МОЖА ДАЦЬ ПЛЁН

Ян Мордань у сваім дапісе „Хто і чаго ездзіў?" („Ніва" н-р 1916) трапна ахарактарызаваў механізм набору каманды ГП БГКТ. Ён быў сведкам іхніх гульняў на сходзе ў Менску 18 снежня 1992 года. Пералічаныя ім асобы — гэта нядаўняя наменклатура. Колькі ваўка не кармі, ён у лес глядзіць — таксама і яны нічагуткі не змяніліся. І я за тым, каб на чарговым з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства выбраць абавязкова новае прагрэсіўнае кіраўніцтва. Старое ж, здэмаралізаванае, паслаць у адстаўку — хопіць ужо злоўжываць уладай. Я ніколі не быў і не з'яўляюся ворагам БГКТ. Лічу, што гэтая беларуская арганізацыя нам назарэз патрэбная, але інтрыганам (як падкрэслівае Я. Мордань) не павінна быць у ёй месца. Трэба выбраць такое праўленне, якое сэрцам і душой адданае будзе свайму народу. Каб супрацоўнічала з рэдакцыяй „Нівы" і вярнула ёй захопленыя гвалтам камп'ютэры. І каб яно ветліва аднасілася да ўсіх беларусаў: і бедных, і багатых; і тых, што на Беласточчыне, і што на Беларусі, і тых, жыццёвыя сцежкі якіх раскінулі па цэлым свеце. І каб супрацоўнічала з іншымі арганізацыямі нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Гэта важна!

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

P.S. Яшчэ некалькі слоў на тэму артыкула Яна Чыквіна „У зачараваным крузе эміграцыі" (той самы нумар „Нівы"), дзе аўтар расказаў пра кнігу Канстанціна Мерляка „Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Праніклівасць і практычны падыход" і заахвоціў да яе прачытання: „... хто цікавіцца якраз тэмай беларускай эміграцыі пасля другой сусветнай вайны, павінен неадкладна прачытаць кнігу..." Я, напрыклад, жадаю прачытаць гэтую кнігу, але як „павінен"? Дзе яе можна дастаць? Хіба не паеду спецыяльна ў Амерыку, каб там яе купіць — не маю часу, і не сакрэт, за бедныя. Парайце, спадар Чыквін, што мне зрабіць.

М.П.

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /4/

Я хацеў пабыць у Рэспубліцы Беларусь. Прыгледзецца да новаўзленай у свеце Беларускай Дзяржавы. Марыў жа аб яе адраджэнні! Прарочыў. Знаходзіў прычыны на непазбежнасць уваскрашэння Беларусі. Не прадбачыў галоўнага - што самі камуністы возьмуцца ліквідаваць камунізм. Залезлі ў сусветны тупік.

Дайшло да палітычнай камедыі: Амерыка баялася ўпадку Савецкага Саюза /ракеты!/. Баіцца выхаду Расіі ў разумнасць. Непатрэбна, як паказвае гісторыя. Марнавала і будзе марнаваць сваё незлічонае багацце. Самая даўгавечная імперыя спарадзіла тып чалавека, які называецца: рускі. Яму напляваць на дабрабыт. Абы армія вялікаю была. І слава, слава, слава! Бясхлебная, страшная для іншых.

У Рэспубліцы больш расійскіх дывізіяў, чымсьці ўласных. Хто хлебам корміць чужыя гарнізоны? Не думаю, каб Масква... Яна заўсёды на чымсьці гарбе сядзела. Такая ў яе натура. Ад сярэднявечных сваіх пачаткаў.

У падобным настроі ехаў я ў менскі Дом літаратара. На прэм'еру сваёй кнігі "Самасей". Васемнаццатага снежня, у марозную пятніцу. Публікі - выразна менш. Не тое, што гадам раней. Памятаю - тады нават стаялі, пад сценамі. Інфляцыя высмоктвае энергію. Не культура ўжо ў галаве. Яе на хлеб не намажаш. Фрэквенцыю паратавалі госці заўтрашняга Сходу беларусаў блізкага замежжа. З Казахстана. З Украіны. З Расіі. З Літвы і Латвіі. І з - Беласточчыны /тэатрык "Балаган", Міра Лукша, Эля Бэзюк з гітараю/. Прачытаў "Гутарку з маці", "Завулак", "Рэмінісцэнцыі", "У мястэчку". З аўдыторыі перадалі першыя карткі з пытаннямі. Вельмі правінцыйнымі. Адказвалася на іх бессаромна лёгка. Але здарылася і небанальнае: нацыянальнае і рэлігійнае ў душы беларуса? Або: права пісьменніка на палітычнасць? І: ці праб'ецца Беларусь у незалежнасць?

П'янага паэта Анатоля Сыса вывелі прэч. Вечар закончыўся планава. Яшчэ маё інтэрв'ю тэлебачанню /тэма: беларуская літаратура і свет/.

Раптам - пасля - застаўся я адзін з Таняю. Ноч, няма чым вярнуцца ў " Іслач". Абяцанае аўта не прыехала... Не пакінулі нас толькі Рубанавы; Уладзіслаў - рэдактар "Самасея". Каб так даўней, то не было б адбою ад запрашаючых на кватэру! Але не цяпер. Пашчасціла, аднак: з'явіліся са сваёй аўтамашынай Яноўскія /з завулка Мядзвежыка/. Іх Галя адпачывала летась у нашым /крынкаўскім/ доме, як "дзіця Чарнобыля". Шаферская яны радзіна. Цэлым кагалам пасядалі мы ў паездажны "масквічык".

Трохі ў шоку, заснуў у "Іслачы" пад раніцу. Упоўз у пасцель - у бялізне, у піжаме, у свэтры, у шкарпэтках. Холад, як у стадоле. Цяплей у туалеце з ваннаю. Але, там бегаюць тараканы /Таня панікуе, ніколі не бачыла брыды/.

На Сход беларусаў блізкага замежжа не паехаў. Здароўе важней ад удзелу ў парадлай імпрэзе. Прадчуваў і правакацыю. У маскоўскім, а як жа, стылі: грубую, мардабойную. І не памыліўся, на жаль. Адзін з высокіх прамоўцаў запрапанаваў матэрыяльную помач беларусам Беластоцкага краю ў будаванні помнікаў ахвярам тэрору... АК! Інаўгурацыйны, відаць, паставілі б у Новаберазове, побач Пілсудскага... Тадышнія камуністы праграмна выступалі супроць незалежнасці Польшчы. Не кажучы ўжо пра Беларусь.

Вядома, цэмент далі б маскалі. Але ўсякія паслейшыя рахункі доўга пакрывалі б палякам менавіта мы, у ролі непапраўных патомкаў КПЗБоўцаў. І нашым дзецям хапіла б ад гэтага дураты, унукам нават.

*/Працяг будзе/*

 

# ІВЕРСКАЯ ІКОНА БОЖАЙ МАЦІ



Першыя ўпамінанні аб гэтай іконе сягаюць паводле традыцыі пачатку IX стагоддзя. Вяжуцца яны з ерассю іканаборства, якой пачатак даў у 726 г. візантыйскі імператар Лявон III. Хаця на VII Усяленскім саборы ў Ніццы ў 787 годзе іканаборства было адсуджанае і вернута культ святых ікон, то аднак яшчэ на працягу многіх гадоў гэтая ерась давала аб сабе знаць. Таксама было і пры панаванні імператара Феафіла, калі зноў сталі нішчыць іконы і праследаваць хрысціян, якія ім пакланяліся.

Гэтая ікона належала тады нейкай набожнай удаве, якая жыла разам са сваім сынам непадалёк Ніццы ў Малой Азіі. Да іконы адносіліся яны з вялікай пашанай і ахоўвалі яе ў спецыяльным будынку, пастаўленым каля свайго дома. Па загаду імператара знішчаліся ўсе іконы. Калі салдаты з'явіліся ў доме ўдавы, адзін з іх, пабачыўшы ікону, ударыў мячом у твар Багародзіцы і тады з раны палілася кроў. Ашаломлены гэтым цудам салдат адракаецца ад ерасі і раіць жанчыне схаваць ікону. Тая так і зрабіла. Урэшце, пасля доўгай малітвы, набожная жанчына з мэтай выратаваць ікону пускае яе на мора і просіць Божую Маці захаваць ад утаплення. На вялікі здзіў і радасць удава бачыць, што ікона адплывае на захад у вертыкальнай пазіцыі. Яе сын неўзабаве падаецца ў Грэцыю, а потым на Афон і становіцца манахам. Ад яго афонскія манахі пачулі гісторыю гэтай іконы. Вестка аб іконе перахоўвалася сярод старцаў. З таго часу прайшло дзвесце гадоў і праўдападобна ў пачатку другога тысячагоддзя ікона ў "вогненным слупе" з'явілася на моры непадалёк Іверскага манастыра. Паўтаралася гэтае некалькі разоў. Аднак калі манахі падыходзілі да вады, ікона адплывала. Тады ўсё брацтва разам са сваім настаяцелем сабраліся ў царкве і прасілі Госпада дазволіць ім узяць гэтую святыню. У той час у Іверскім манастыры, а дакладаней у адной яго пустэльні, жыў манах Гаўрыіл, які вёў сябе вельмі аскетычна - еў галоўным чынам фрукты і піў толькі ваду. Іяму гэта ў сне паказалася Багародзіца і прамовіла так: "Скажы настаяцелю і братам, што Я хачу даць ім Сваю ікону, Свой пакроў і дапамогу, а потым увайдзі ў мора і з верай ступай па хвалях, а тады ўсе прызнаюць Маю любоў і прыхільнасць да гэтага месца". Расказаў ён свой сон і назаўтра ўсе манахі з малітоўнымі спевамі пайшлі на марскі бераг. Старац Гаўрыіл падмацаваны верай, якая чыніць цуда, пайшоў па хвалях, быццам па сушы, узяў ікону ў свае рукі і вынес яе на бераг. У пабудаванай у гэтым месцы часоўні манахі маліліся тры дні і тры ночы, а потым занеслі ікону ў саборную царкву і паставілі ў алтары. Вельмі здзівіліся манахі, калі назаўтра іконы не было ў алтары, а вісела яна над брамай манастыра. Узялі яе назад у царкву, але гісторыя паўтарылася. Яшчэ некалькі разоў манахі прабавалі занесці ікону ў храм, але безвынікова. Тады зноў Багародзіца з'явілася старцу Гаўрыілу і сказала, што яна не хоча быць ахоўваемай манахамі, а толькі Сама хоча іх ахоўваць і да гэтай пары, пакуль ікона будзе знаходзіцца ў манастыры, будуць яны надзелены ласкай Яе Сына. Тады манахі пабудавалі царкву над брамай /надбрамную/ і там змясцілі ў яе ікону, якая там знаходзіцца па сённяшні дзень. У 1854 годзе здарылася яшчэ адно цудоўнае з'яўленне Божай Маці многім пустэльнікам на гары Афон. Тады яна сказала, што нічога ім не пагражае, пакуль Яе ікона знаходзіцца ў Іверскім манастыры, але калі Яна пакіне гэтае месца, тады і манахі гэтае месца пакінуць павінны.

Ікона мае падвойнае названне. Іверская - бо так называўся манастыр заснаваны грузінамі /Іверыя - Iberia - старажытная назва Грузіі/; манастыр называецца так з 980 года, хаця першыя грузінскія манахі пасяліліся на Афоне ўжо каля 790 г. Другая яе назва - Вратарніца/грэчаскае Portaitisa/ - паходзіць ад месца знаходжання іконы. Многія цуды звязаны з іконай Іверскай Вратарніцы. На манастыр над берагам мора часта нападалі піраты і ворагі праваслаўя. Аднак пакроў Прасвятой Дзевы Мары ахоўваў яго, як і цэлы Афон, і дапамог яму ператрываць да нашых часоў.

Яе копіі, слаўныя многімі цудамі, рассеяны па ўсёй Русі. Дзве першыя, напісаныя ў палове XVII ст. на Афоне, былі прывезены ў Маскву. Памяць Іверскай Іконы Божай Маці ўшаноўваем у аўторак Пасхальнага тыдня, а таксама 13 кастрычніка і 10 лютага.

Змешчаная ў тэксце копія была напісана на гары Афон у 1981 годзе. Пасля гарачых просьбаў і па волі Божай атрымаў яе ў кастрычніку 1982 года паломнік-іканапісец іспанец, народжаны ў Чылі, а пражываючы ў Канадзе. У юнацтве прыняў ён праваслаўе. Вярнуўшыся ў пачатку лістапада ў Манрэаль, ён на працягу трох тыдняў кожны вечар чытаў перад іконай акафіст Прасвятой Багародзіцы. 24 лістапада 1982 года здарыўся вялікі цуд - з іконы пачало выцякаць пахучае міра. З'яўляецца яно падчас малітвы перад іконай або непасрэдна пасля малітвы і выцякае з рук Багародзіцы ды Збавіцеля, а часам і з зоркі на правым плячы Божай Маці. Цячэ яно ўніз, на вату, якую пазней раздаюць вернікам. Саракасямігадовы Хасэ Муньяс аб'ядждае свет з міратачываю іконай, быў у многіх краінах абедзвюх Амерык, Еўропы і Аўстраліі.

Прасвятая Багародзіца, малі Бога пра нас.

**С. Н.**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

**VII. ЦЭНТР АСВЕТЫ.**

Традыцыі школьніцтва ў Кляшчэлях выводзяцца з XVI ст. Ужо тады пры Мікалаеўскай царкве існавала вучылішча, статус якога, на жаль, невядомы. Пра ўзровень гэтай школы няхай сведчыць факт, што яе выпускнікі ўжо тады траплялі на навуку ў Ягелонскі універсітэт. У XVII ст. кляшчэлеўскую школу ўтрымлівала Мікалаеўскае брацтва. З часам школа арганізавалася і пры рымска-каталіцкім касцёле св. Станіслава. Перыяд развіцця школьніцтва ў Кляшчэлях і іх непасрэдным наваколлі прыпадае на XVIII і пачатак XIX стагоддзяў.

З "Візітацыі" Мікалаеўскай і Юр'еўскай цэркваў за 1727 год бачым, што ў гэты час школьніцтва ў горадзе занепала, або вельмі слаба дзейнічала. Таму візітатары абавязалі настаяцеляў, каб яны належна дбалі пра школы ў сваіх прыходах.

Відавочна, справа школьніцтва ў прыходах пачала сапраўды аднаўляцца з 1744 г., калі настаяцелем Мікалаеўскай царквы стаў а. Ян Сасноўскі. Апрача прыхадской школы для дзяцей у Кляшчэлях пачынае арганізавацца школа для псаломшчыкаў і дыяканаў. Многія з выпускнікоў гэтай школы "царкоўнікаў" прынялі пазней свяшчэнства, таму яе ўздзеянне разыходзілася далёка за межы Падляшша. Дзейнасць школы "царкоўнікаў" прадаўжалася за а. Юрыя Сасноўскага, які з 1772 г. пераймае па бацьку служэнне ў Мікалаеўскай царкве. За перыяд яго служэння ў школе вучыліся, між іншымі, Міхал Баброўскі, будучы святар і прафесар Віленскага універсітэта ды сын настаяцеля Антон Сасноўскі.

Ён жа, ужо як настаяцель Мікалаеўскай царквы ў Кляшчэлях, падымае школьніцтва на найвышэйшы дагэтуль узровень і абсяг. На гэты час кляшчэлеўская школа была адной з лепшых у Берасцейскай уніяцкай епархіі. Яна грунтоўна навучала царкоўнаславянскай мовы ды царкоўнага спеву.

Апрача школы ў самім горадзе, асветныя ўстановы арганізаваліся і ў "прадмесцях": Кузаве, Дашах, Дабрывадзе, Чаромсе. Знамянальнае, што жыхары гэтых вёсак рашылі самі ўтрымліваць школы. Дырэктар Беластоцкай школьнай акругі А. Ю. Лявіцкі ў сваёй справаздачы за 1820 г. пісаў: Mieszkańcy wsi dóbr skarbowych, należących do miasta Koronnego Kleszczel /.../ obowiązali się nie tylko utrzymywać nauczyciela i opatrywać szkółkę, lecz razem dopilnować, aby dzieci od ukończonego roku siódmego na naukę do tych szkółek były oddawane".

Ва ўспомненых вясковых школах у 1820 г. вучылася разам 102 вучні. Іх нацыянальнасць і веравызнанне прадвызначалі характар гэтых школ. Галоўным прадметам з'яўлялася тут царкоўнаславянская мова. Вышэйшы ўзровень адукацыі мела прыхадская школа ў самых Кляшчэлях. У 1822 г. тут вучылася 70 хлопцаў і 10 дзяўчынак. Вучыліся яны царкоўнаславянскай, рускай і польскай моў, матэматыкі, царкоўнага спеву. Сам а. Антон Сасноўскі навучаў дзяцей агародніцтва /Кляшчэлі надалей заставаліся слаўнымі сваімі агуркамі/.

Кляшчэлеўская школа была шырока вядомая сваім хорам. Заснаваў яго і давёў да высокага ўзроўню настаўнік спеву Ян Яноўскі. Слава гэтага хору разышлася па ўсёй Літоўскай епархіі, а выпускнікі школы і ўдзельнікі хору мелі адкрытую дарогу на пасады царкоўных псаломшчыкаў. Паводле праф. Каяловіча царкоўны спеў у Кляшчэлях меў даўнюю традыцыю, а яго навука перадавалася з пакалення ў пакаленне. І сёння яшчэ можна пачуць у Кляшчэлях рэдкія ўжо царкоўныя напевы.

**Р. С. і М. С.**

# БАЧЫЦЬ БУДУЧЫНЮ

Хіба кожны з нас сутыкаўся ў сваім жыцці з чымсьці, што называем — прадчуваннем. Гэты феномен людской псіхікі цяжка разгадаць і таму ломяць сабе над ім галовы шматлікія вучоныя псіхолагі і парапсіхолагі, не дабіваючыся ўсё ж задавальняючых усіх адказаў. Бо і вазьмі растлумач, адкуль можаш ведаць тое, што здарыцца, не маючы для гэтага рэальных прадпасылак? А ёсць жа яшчэ людзі, якія могуць на яве ўбачыць будучыню. Парапсіхалогія такія выпадкі акрэслівае яснабачаннем. Гэты феномен таксама яшчэ на этапе гіпотэзаў.

Пра адзін цікавы выпадак яснабачання расказала мне нядаўна спадарыня Надзея Руско, 87-гадовая жыхарка Падалянаў.

— Я пачула гэтую гісторыю, — кажа спадарыня Руско, — яшчэ перад апошняй вайной ад нашай Вольгі Сяргееўны. Яна недзе ў пачатку 20-х гадоў выбралася аднойчы летам жаць сярпом збожжа ва ўрочышчы Плакса, значыць на Стачкавым полі. Неўзабаве прыйшла памагаць жаць яе векавая бабуля, Тэкля Пісарэвіч (дзявочае Бароўская). Вольга стала пераконваць бабулю, што яна сама дасць рады і каб тая ішла дадому. Але Тэкля не хацела вяртацца. Праз нейкі час пачало збірацца на буру. Людзі былі вымушаны пакідаць працу пры жніве. Бабуля Тэкля стала дрэнна сябе адчуваць. Папрасіла Вольгу, каб тая аддала іхнія сярпы людзям, а яе ўзяла пад руку. Яна баялася, што калі ўпадзе з сярпом, то абедзве могуць пакалечыцца. Вольга гэтак і зрабіла. Ідучы, Тэкля глянула ў напрамку ўрочышча Крыштаповае (направа ад Броўскай дарогі), якое было ў той час адным полем.

— Паглядзі, Волечка, колькі там белых, светлых дамоў, — сказала яна. Вольга запярэчыла: — Бабуся, там ніякіх дамоў няма! Але старэнькая яшчэ раз тое самае паўтарыла. І раптам упала на зямлю. Тэклю прывезлі на фуры дадому. Падвечар яна памерла.

Над усім гэтым можна было б і не задумоўвацца, каб не тое, што зараз урочышча Крыштаповае сапраўды пакрылася... белымі, светлымі дамамі. Затым не былі гэта перадсмяротныя галюцынацыі, а проста бачанне будучыні. Як да гэтага дайшло? Відаць мусілі якраз узнікнуць адпаведныя ўмовы. Магчыма, што змена ціску паветра (перад бурай) і крытычнае становішча ў функцыяніраванню арганізма стварылі нейкія паранармальныя магчымасці. Інакш хіба меркаваць нельга?

А ці нехта з чытачоў „Нівы" чуў пра падобныя выпадкі? Калі так, няхай напіша!

**ПЁТР БАЙКО**

# КНІЖКА ПРА АДНУ ПАРАФІЮ

Выйшла з друку манаграфія Уладзіслава Зіна „Гайнаўская праваслаўная парафія Святой Тройцы." Спомненая парафія ў мінулым годзе святкавала 50-годдзе свайго існавання. З гэтай нагоды была выдадзена манаграфія, якая налічвае каля 100 старонак.

Важнейшыя яе раздзелы гэта, між інш.: „Праваслаўе на Беластоцкай зямлі", „Рэлігійнае жыццё праваслаўных людзей на Гайнаўшчыне", „Самастойная праваслаўная парафія св. Мікалая ў Гайнаўцы (гады 1942-1972)", „Сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы (1973-1992)", „Святыя рэліквіі ў саборы" і „Гайнаўскія фестывалі царкоўнай музыкі".

Кніжка прыгожа выдадзеная, многа ў ёй фотаздымкаў і фотакопій. Зараз можна яе купіць, між іншым, у гайнаўскай царкве і гайнаўскіх кіёсках „Рух".

**(ця)**

------------------

*) Władysław Zin, Hajnowska parafia prawosławna Św. Trójcy, monografia, Hajnówka 1992.



 

 

# „ДУБІНЫ" І АМЕРЫКА

*Працяг са стар. 1*

шы і купіць новыя інструменты. Увесь кошт пабыўкі гасцей абышоўся ў 28 тысяч долараў, не ўлічваючы маіх прыватных выдаткаў на звязаныя з гэтым падарожжы і вельмі каштоўныя тэлефонныя размовы. На новыя інструменты патрэба было 13 тысяч долараў, якія амаль у апошнюю хвіліну ўдалося мне здабыць дзякуючы шчодрай падтрымцы беларускіх грамадскіх і царкоўных арганізацый і ў асаблівасці многіх індывідуальных ахвярадаўцаў. Да гэтага часу ніхто з нас, гаспадароў, і не думаў, што госці змогуць прэтэндаваць на інструменты як на іхнюю ўласнасць.

Пасля трох месяцаў ад часу прыезду, усе госці вярнуліся дадому, апрача кіраўніка ансамбля спадара Скепкі, які астаўся аж да Калядных святаў. На працягу гэтага часу трэба было вырашыць, пад чыю кантролю і на якіх умовах перадаць купленыя музычныя інструменты. Амаль пяць месяцаў заняла мне апрацоўка дакументаў перадачы, версія якога ўзнікла пасля падрабязнай кансультацыі з кампетэнтнымі ў гэтай справе асобамі як архіепіскап Мікалай, спадары М. Ганько, С. Прахарук, Я. Запруднік, С. Карніловіч, В. Сельвясюк і іншыя. З увагі на тое, што Царква з'яўляецца інтэрнацыянальна ганараванай дабрачыннай установай, афіцыйна ўсе грашовыя аперацыі, звязаныя з купляй інструментаў, праходзілі праз царкоўную касу. Дзеля гэтага дакументы перадачы былі распісаныя ў двух ступенях.

У першым дакуменце, падпісаным першым іерархам БАПЦ, мітрапалітам Мікалаем, царкоўным скарбнікам Марыяй Ганько і мною, кажацца:

*Дзеля далейшага развіцця і папулярызацыі беларускай песні і музычнай культуры, Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква за пасрэдніцтвам Канадыйскага таварыства „Беларусь" перадаюць суайчыннікам у Польскай Народнай Рэспубліцы камплект музычных інструментаў, як дар беларусаў Паўночнай Амерыкі.*

*Дзеля апекі і належнага выкарыстоўвання ахвяраваных інструментаў, Канадыйскае таварыства „Беларусь" упаважняе мужоў даверу ў складзе: Юры Туронак, Лявон Тарасэвіч, Ян Максімюк, Валянцін Сельвясюк, Алесь Палескі, якія будуць поўным уласнікам усіх вышэй пералічаных інструментаў.*

*Мужы даверу абавязаны наглядаць за адпаведным выкарыстоўваннем інструментаў згодна з выказанай вышэй ідэяй развіцця і папулярызацыі беларускай песні і музычнай культуры ў Беластоцкім краі. Мужы даверу распараджаюцца інструментамі, аддаючы іх у карыстанне выбраным асобам і калектывам, якія будуць адказнымі і абавязанымі дбаць за добрае тэхнічнае ўтрыманне паверaных ім інструментаў. У выпадку пашкоджання ці ўтраты інструментаў карыстаючыяся імі асобы ці калектывы абавязаны пакрыць звязаныя з гэтым кошты. У выпадку выкарыстоўвання інструментаў нязгодна з ідэяй развіцця беларускай музычнай культуры, на загад мужоў даверу карыстаючыяся асобы ці ансамблі забавязаны звярнуць поўны склад інструментаў.*

*Выказваючы пашану за дзейнасць ансамблю „Дубіны" і ў падзяцы за прыняццё ўдзелу на 18-й Сустрэчы, вырашана паручыць ім састаў інструментаў у карыстанне.(...)*

Мужы даверу выказвалі поўны давер Пятру Скепку і ў ягоныя рукі аддалі поўную ўладу і адказнасць за інструменты ў часе іх карыстання. Прынялі забавязанасць калектыву „Дубіны" поўнасцю дзейнічаць згодна з ідэяй развіцця беларускай музычнай культуры. Усе сябры ансамбля забавязаліся дбаць пра добрае тэхнічнае ўтрыманне перададзеных ім інструментаў.

Калектыў забавязаўся таксама пакрываць усе расходы, звязаныя з утрыманнем інструментаў уключна з коштамі рамонту ці ўтраты інструментаў у часе іх выкарыстоўвання.

Спачатку так пастаўленыя ўмовы спадар Скепка ўспрыняў з вялікім жахам і абурэннем, але не меўшы іншага выхаду, пагадзіўся з імі.

З прычыны таго, што ў даны момант толькі Валік Сельвясюк і я прысутнічалі на гэтым кантыненце, другі дакумент, у якім Таварыства „Беларусь" і мужы даверу перадавалі „Дубінам" інструменты ў карыстанне, не быў падпісаны Ю. Туронкам, Л. Тарасэвічам і Я. Максімюкам. Кіраўнік ансамбля Скепка забавязаўся неадкладна даставіць дакумент да падпісання вышэй названым асобам і пакінуць кожнаму мужу даверу копіі абодвух дакументаў. Два гады я намагаў Скепку, каб згодна з дамовай падпарадкаваўся камітэту выбраных мужоў даверу. На жаль, Скепка ігнараваў прынятыя варункі. На 19-й сустрэчы ў прысутнасці В. Сельвесюка, старшыні ЗБК Міколы Ганько, царкоўнага скарбніка Марыі Ганько, Алега Латышонка і мяне, паспрабавалі мы намовіць Скепку падпарадкавацца прынятым законам і закончыць гэтую справу. Вось у гэтай сітуацыі Скепка запэўніў, што калі ў канцы верасня 1990 г. я буду ў Гайнаўцы, ягоная жонка перадасць мне арыгінальныя дакументы перадачы інструментаў, каб канчаткова палагодзіць гэтую справу. Калі я наведаў Скепкаву хату, ягоная жонка сказала, што нічога не ведае пра гэта.

Многа разоў неаафіцыйна даходзілі да нас негатыўныя весткі адносна нязгоднага з прызначэннем выкарыстоўвання інструментаў „Дубінамі" і іхняга рэгрэсу як музыкантаў. У апошні час пацвердзілі гэта „басаўцы" і многія іншыя зацікаўленыя асобы. Аднак нягледзячы на гэта, я лічу, што звыш трохгадовае ігнараванне ўмоў спадаром Скепкам ёсць не толькі прычынай, а нават абавязкам забраць яму давераныя інструменты.

Паводле ўмовы, мужы даверу могуць перадаваць інструменты другім асобам ці ансамблю, калі ўважаюць гэта за карыснае для развіцця беларускай культуры, нават калі карыстальнікі не парушаць умоваў іх карыстання. Каб пазбыцца прадугледжанага канфлікту са Скепкам, Ян Запруднік перадаў справу інструментаў Віктару Стахвюку. Скепка моцна абурыўся, пачуўшы гэта. Калі ў лістападзе 1990 г. спалучыўся я са Скепкам, каб даведацца, як прадстаўляецца гэтая справа, абураны Скепка адказаў, што „плюе" на маіх мужоў даверу і толькі са сваімі музыкантамі вырашае аб лёсе інструментаў. Далей сказаў, што інструменты аддасць, калі звернуцца яму кошты транспарту іх з Гдыні ў Гайнаўку (12000 зл. тры гады таму) і кошты іхняга нібыта ўкладу ў гэтыя інструменты падчас карыстання імі. Я адказаў кіраўніку, што кошт карыстання гэтым абсталяваннем ёсць куды большы за іхні ўклад, калі можна нешта прызнаць за нейкі ўклад калектыву „Дубіны". Паводле ўмовы, карыстальнікі забавязаны пакрываць усе кошты звязаныя з утрыманнем інструментаў. Пазней, у снежні 1990 г. атрымаў я ліст ад Скепкі, у якім аўтар піша:

*„Паважаны спадар А. Палескі.*

*Твой тэлефон моцна мяне ўсхваляваў, але дам сабе рады і з гэтай праблемай. Справа ідзе пра інструменты, якія былі закуплены з грошай сабраных ад усіх амерыканцаў-беларусаў, якія жывуць у ЗША і Канадзе, а не Таварыствам „Беларусь", якія абсалютна не знаюць, што Ты з намі гуляеш як з сабакай, для якога паказаў каўбасу, увязаную на палцы. І тут маю да цябе просьбу: падай лісту людзей, якія далі грошы на гэтыя інструменты. Калі гэтага не зробіш, сам дайду пры дапамозе маіх сяброў хто даў і колькі. Другая справа, то прышлі пратакол сабраных мужоў даверу, у якім знаходзіцца матывацыя і дэцызія. Не знаю, ці ты паінфармаваў мужоў даверу, што я хачу пратакол пабачыць раней, перад тым, як аддам інструменты, каб копію выслаць у падатковую (мытную А. П.) інстанцыю. Гэта мушу зрабіць, каб не прышлося бацьку прадаваць гаспадарку.*

*Пятро С."*

Пасля таго я кансультаваўся ў гэтай справе з вышэй пералічанымі мужамі даверу і з многімі зацікаўленымі гэтай справай беларускімі грамадскімі дзеячамі Паўночнай Амерыкі. Усе з іх былі гатовыя зрабіць свае намаганні на Скепку, каб той вярнуў даверанае яму абсталяванне. Гэтыя апошнія кажуць, што першымі інтэрвеніяваць павінны мужы даверу. Аднак мужам даверу спадар Скепка не даставіў дакументаў, паводле якіх яны могуць узняць нейкую акцыю.

Такім чынам замыкаецца зачараванае кола, якое ўзнікла з прычыны неадказнасці кіраўніка „Дубіноў" і членаў ансамбля, якія таксама маўчаць, быццам вады ў рот набраўшы. Нядаўна Скепка ў размове з Алай Орса-Рамана сказаў, што таму не аддае інструментаў, каб не прапалі, бо сапраўды няма каму іх аддаць. Гэтае наіўнае стаўленне Скепкі не патрабуе ніякага каментарыя.

Спадзяюся, што чытаючы гэты тэкст, паважаны Пятро Скепка здагадаецца зірнуць у дакументы перадачы інструментаў, каб даведацца, каму павінен перадаць даручаныя яму інструменты, каб яны не прапалі.

**АЛЕСЬ ПАЛЕСКІ**

# Czasopis

## У ЛЮТЫМ

У Беластоку быў канцэнтрацыйны лагер для жаўнераў Чырвонай арміі (з польска-бальшавіцкай вайны), а пасля для беларускага палітычнага, культурнага ды настаўніцкага актыву Гродзеншчыны, жаўнераў з атрада Булак-Балаховіча ды Слуцкай брыгады. Алег Латышонак — аўтар гэтай сенсацыйнай публікацыі і рэдакцыя „Часопіса" чакаюць дапамогі ў пошуках магілаў звыш паўтары тысячы загінуўшых у ім беларусаў ды людзей іншай нацыянальнасці.

Мікола Матрунчык піша пра сацыяльныя, палітычныя ды рэлігійныя ўмовы жыцця жыхароў сучаснай Беларусі.

Славамір Іванюк апісвае злачынствы, якія адбыліся ў час нападу на клуб Варшаўскага аддзела БГКТ і ягоных дзеячоў — Міколу Алексеюка ды Хведара Галёнку.

Галена Глагоўская дае справаздачу з I Фестывалю нацыянальных меншасцяў.

Яраслаў Іванюк падрабязна апісвае жыццё „асветніцы з роду Усяслава", княгіні Прадславы-Ефрасінні.

Друкуецца працяг разважанняў Я. Мірановіча „Праваслаўныя палякі" і кніжкі С. Яновіча „Dolina pełna losu".

Апрача таго пастаянныя рубрыкі: хроніка, з друку, нашы прыходы, крыжаванка ды іншае.

**Ю.К.**

# ТУРЫСТАЎ ПАМЕНШАЛА, АЛЕ РАЗМОЎНІК ЁСЦЬ

Напрыканцы мінулага года (або ў пачатку бягучага) у менскіх кнігарнях паказаўся „Беларуска-польскі размоўнік", укладзены Анатолем Клышкам. Цана — 26 рублёў (па-нашаму — каля 500 (пяцьсот) злотых).

Выхад кожнага выдання слоўнікава-лексіграфічнага характару на Беларусі, вядома, не можа нас не цешыць. Але гэтае выданне радуе нас асабліва. На звыш трохстах старонках аўтар дае прыкладныя выказванні з усіх сфераў побытава-культурна-эканамічна-сацыяльных міжлюдскіх зносін. Натуральна, можна ўсумніцца, ці шмат людзей на Беларусі ведае беларускую мову ажно так добра, каб праз ейнае пасрэдніцтва спазнаваць польскую. Ды справа тут у падвойнай карысці — кожны, каму рупіць мець нейкі даведнік па польскай мове, набыўшы кніжыцу А. Клышкі, заадно атрымае кампетэнтны і дбайна падрыхтаваны даведнік па беларускай. Адзначыць трэба, што аўтар наогул пазбягае лексічных і фразеалагічных русізмаў і саветызмаў, што да нядаўняга часу кішма кішэлі ў беларускіх выданнях. Беларуская мова гучыць тут больш натуральна, прыгожа. Ці будзе калісь такі час, што яна натуральна і прыгожа загучыць на беларускіх вуліцах і ў беларускіх дамах — пакуль яшчэ невядома, але выданні накшталт вышэй згаданага „Размоўніка" такую надзею падтрымліваюць.

Матэрыял у „Размоўніку" раскладзены на наступных частках: 1/ Надпісы, вывескі, шыльды; 2/ Найбольш ужывальныя выразы; 3/ Лікі; 4/ Велічыні і меры; 5/ Час; 6/ Найважнейшыя рысы і ўласцівасці; 7/ Асабовыя звесткі; 8/ Падарожжа; 9/ Гасцініца; 10/ Харчаванне; 11/ Бытавое абслугоўванне; 12/ Пошта. Тэлеграф. Тэлефон; 13/ Горад; 14/ Пакупкі; 15/ Здароўе; 16/ Культурнае жыццё; 17/ Спорт; 18/ Экскурсія; 19/ Разумнай галоўцы досыць два слоўцы (найбольш ужывальныя фразеалагізмы і показкі). Варта яшчэ адзначыць, што пры шмат якіх з гэтых частак змешчаныя кароткія слоўнічкі, якія даюць магчымасць пашырэння і ўзбагачэння выказванняў паводле раней прыведзеных фраэеалагічных мадэляў.

Паколькі гэты тэкст адрасуецца чытачу, які наогул мае цяжкасці з беларускай мовай, а не з польскай, таму я не буду займацца праблемай засваення польскай мовы пры дапамозе гэтага „Размоўніка", а адзначу яшчэ адну справу — на мой погляд — істотную. Варта было б, каб „Беларуска-польскі размоўнік" трапіў у школьныя бібліятэкі ў тых школах, дзе настаўнікі яшчэ змагаюцца за навучанне беларускае мовы на Беласточчыне. Ён мог бы быць скарыстаны на ўроках беларускае мовы пры навучанні болей практычнага яе боку. Бо ж ведаем не ад сёння, што ў нас вучні сяк-так засвойваюць тэкст з падручніка, але калі ідзе пра практычнае валоданне моваю — размову, скажам, на актуальную жыццёвую тэму — тут назіраецца амаль поўная бездапаможнасць. Нават запытацца, каторая гадзіна, па-беларуску ў нас наўрад ці хто зможа. Не кажучы ўжо пра правільны беларускі адказ. У гэтым аспекце „Размоўнік" А. Клышкі — неацэнная крыніца і дапаможнік.

Турыстаў з Беларусі, мяркуючы па базарах, у нас прыкметна паменшала. Магчыма, што не ўвесь тыраж „Беларуска-польскага размоўніка" (22 тысячы) ужо раскуплены. Варта было б, каб нехта паехаў (найлепш на сваім аўтобусе) і закупіў пару сотняў гэтай кніжыцы нам на Беласточчыну (тады б, пэўна, мы не спрачаліся б у „Ніве", „хто і чаго ездзіў"). Цана ж яе — смяхотная. А карысць — грашамі невымяральная.

**ЯН МАКСІМЮК**



 

# ПЕРШЫ ФЕСТЫВАЛЬ МЕНШАСЦЯЎ У ГДАНЬСКУ

У час, калі ў Гданьску гаварылі мы пра свабоду слова, супрацоўніцтва народаў, у Еўропе былі і ёсць народы і людзі, якія патрабуюць ужо не гэтых вялікіх "вольных слоў", а свабоды і права бяспечна прабегчы пад кулямі па лякарства, хлеб ці малако для дзіцяці. І гэта ў імя права народа і чалавека да існавання і самастанаўлення, якое належыцца кожнаму. Пра гэта ўспаміналі на I фестывалі нацыянальных меншасцяў у Гданьску асабліва нашыя македонцы і грэкі, якіх прывяла калісьці ў Польшчу палітычная бяда.



*Беларусы з усіх бакоў: Міра Лукша з Беластока, Юрась Шаўцоў з Вільні, Лена Глагоўская з Гданьска і Зміцер Жданюк з Менска.*

Метай фестывалю было прадстаўленне культурных дасягненняў народаў, якія пражываюць у Рэчыпаспалітай. Арганізатарамі гэтага мерапрыемства былі Польска-украінскае таварыства, East European Democratic Center, польская Y.M.C.A., Саюз незалежнай украінскай моладзі, Ольштынскае таварыства нямецкай меншасці. Фінансава дапамагалі Гарадская ўправа ў Гдыні, Камісія культуры горада Гданьска, Аддзел культуры, навукі і спорту Ваяводскай управы ў Гданьску і Інстытут дзеля дэмакратыі ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. На адкрыцці фестывалю прысутнічалі пасол Летувы, консулы Расіі і Беларусі, рэпрэзентацыя генеральнага консульства ФРГ, але нікога, нягледзячы на запрашэнні, не было з сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцяў і Міністэрства культуры і мастацтва РП. Не было таксама журналістаў з цэнтральнага друку. Што ж, правінцыя арганізуе?.. У самым Гданьску зацікаўленне было даволі вялікае, але не сярод насельніцтва (мала паведамленняў, плакатаў), а ў відэамайстроў ды фільмоўцаў; здаецца, бачылі ў нас пэўна нейкую экзотыку.

На працягу 5 дзён (14 - 18 студзеня г.г.) былі арганізаваны мастацкія выстаўкі - у Гданьску ў камяніцы "пад Львамі" беларускіх мастакоў, а ў Гдыні студэнтаў акадэміі мастацтваў. Мела быць паказана выстаўка прац беларускіх фатаграфікаў, але практычна яе не было; Уладзімір Парфянок прадставіў уласніку фатаграфічнай галерэі ў Гданьску працы сваіх калег і свае і правёў размовы пра арганізацыю выстаўкі ў Сопаце ў будучыні.

Самым цікавым быў тэатральны вечар. Вельмі добра выступіў эксперыментальны ўкраінскі тэатр Пятра Паўлішчэ з Гданьска "Кантакт" са спектаклем "The Never Ending Story". Філасафічны твор, напісаны на нямецкай мове былым жыхарам Гданьска, гучаў па-ўкраінску. Колер, музыка, выдатнае майстэрства маладых акцёраў, выкарыстанне ўкраінскага абраду - зачаравалі гледачоў. Пасля іх выступіў вандроўны тэатр "Балаган" Янкі Мордання, з паэтычнай праграмай "белавежцаў". Першы раз выступіў у "Балагане" Мікола Ігнацюк з Рыбалаў (кіраўнік "Хлопцаў-рыбалоўцаў"), са сваім вершам. Пастаноўка падабалася, толькі расчаравала адна дзяўчынка, якая чытала тэксты Т. Канвіцкага пра Беларусь. Здавалася, Бэатка трапіла на сцэну зусім выпадкова. Але, можна ёй прабачыць, - выступала з "Балаганам" першы раз, а тэатр перад выездам з Беластока не мог зрабіць нарамальнай рэпетыцыі - у сядзібе БГКТ яны перашкаджалі (у той вечар толькі?..), і пайшлі на... пошту, што насупроць беларускай сядзібы, і там дасканалілі сваё майстэрства, зусім хіба не здзіўляючы наведвальнікаў гэтай установы беларускімі вершамі.

У праграме не было нічога напісана пра выступленне тэатра беларускай гданьскай моладзі (Лена ў чорных сукнях!) з "Апокрыфам" Максіма Багдановіча, хаця ўсё было раней удакладнена. Мелася ўражанне, што беларусы папалі не вельмі ў госці, асабліва тыя, хто ў Польшчы "меншасць"... Хіба цудам удалося выступіць гданьскім беларусам, хаця нешматлікіх ужо вельмі позна вечарам гледачоў сілай забіралі ў аўтобус, які вёз гасцей у гатэль у Гдыню. Спектакль атрымаўся "прыемна-нявінна-аматарскім", як сказалі прафесіяналы з менскага тэатру "Дзе-Я?", але спадабауся. Рэшткі снапка саломы, які быў рэквізітам у спектаклі, знайшлі мы потым у цяперашнім прытулішчы гданьскіх беларусаў, малюсенькіх пакойчыках у будынку, які чакае разбурэння, амаль насупроць вакзала (а раней мелі такую сядзібу на Доўгім таргу...). У пішучай машынцы тырчэла паперына з трагічным лістом, што і за гэтыя пакойчыкі не могуць яны заплаціць яшчэ за апошнія месяцы мінулага года, у будынку, куды іх не хочуць пускаць у... суботы і нядзелі! Прыдзецца і стуль уцякаць, толькі куды?.. БГКТ абяцала заплаціць тых пару мільёнаў за мінулы год, але ж і само іх не мае...



*Дзяўчаты з "Балагана".*

Праўду кажучы, беларусаў на гэтым фестывалі не было шмат. Ратаваў нас трохі Менск - тэатр "Дзе-Я?", "Мроя" з "Новым небам", пару мастакоў, пару палітыкаў... Разам іх было 30 асоб. Як бачым, не быў гэта фестываль меншасцяў, а больш - народаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, бо і ўкраінцаў было шмат, але таксама з Украіны, - тэатры ім. Леся Курбаса і "Родовід" з Львова ( першы выступіў з цікавай, але даўгаватай п'есай па-Дастаеўскаму), тэатр "Буд'мо" з Кіева... Выступіў гурт "Dies irae" з Пшэмысля; там выступаюць украінцы. У гурце "Piersi", на канцэрт якога прыйшло шмат моладзі з горада, вакаліст мае маму-ўкраінку. Фестываль выклікаў зацікаўленне ўкраінскай меншасці, і гэтая мова гучала ў кулуарах. Нямецкая меншасць прыслала танцавальную групу з Ольштына, рок-групу "Голіят" і Марлену Грабоўскую, якая спяваючы файную песню па-нямецку заглядала што і раз у картачку. На начным канцэрце не забракла і джазу, і року - украінскага, беларускага, яўрэйскага... "Мроя" выступіла з новай праграмай. Мікола Ігнацюк, найстарэйшы, цярплівы ўдзельнік начных канцэртаў, падсумаваў: "Не ведаў, як пекла выглядае, але цяпер ведаю!" Украінска-беларускія спевы штодзень (хіба - штоноч) працягваліся чамусьці пад маім пакоем у гатэлі Y.M.C.A. у Гдыні. Зеленавокі яўрэй Роберт запісваў усё - пачынаючы ад "Уліса" а канчаючы на "Цячэ вада ў ярок" ці "Нэсэ Галя воду" ці наадварот... Шкада, што ўсе госці былі паселены хто як - і то ў двух гарадах. А рабіўся з гэтага часам дзікі балаган і скандал, напрыклад, запрапанавалі хлопцам на трэці дзень а 2 гадзіне ночы, каб пераносіліся ў іншы гатэль, бо раніцай маюць прыехаць якіясьці немцы, і трэба іх будзе пасяліць вось абавязкова ў гэтай гімнастычнай зале, на гэтых вось матрацах. Немцы не прыехалі. Дзяўчаты-арганізатаркі, рассяляючы гасцей, не маглі далічыцца, колькі пакояў ёсць на паверху, а іх аргумент быў такі: "Мы не ведаем, мы тут толькі... арганізуем!" Вядома, што ў выпадку першай арганізацыі імпрэзы такога машатбу могуць выступіць пэўныя праблемы.

Арганізатары хочуць, каб гэтае мерапрыемства стала цыклічным. Маюць надзею сабраць большыя матэрыяльныя сродкі. Хочуць змяніць і формулу фестывалю - на фестываль народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Дэкларацыю дапамогі далі прадстаўнікі Аддзела культуры, навукі і спорту Ваяводскай управы ў Гданьску, - імпрэзу спансаравала б Рада еўрапейскай супольнасці. Можна было б далучыць і спартыўныя спаборніцтвы. Вядома, што ў наступным годзе тут будуць чакаць гасцей. А валынскі ваявода Васыль Ворон прапануе і ў сваёй вобласці правесці падобную сустрэчу.

Галоўнае - бюджэт. Перад фестывалем на рахунках мелі толькі пару мільёнаў злотых і фінансавыя дэкларацыі. Трэба было 120 мільёнаў. Запрасілі больш 100 асоб. Праблем было шмат, але Кшыштаф Фігель, дырэктар Бюро фестывалю лічыць, што найважнейшае ёсць гэта, што людзі сустрэліся, канфрантуюцца на ўзроўні культуры, а не канфлікту. Прыкладам карыснай ініцыятывы ў збліжэнні народаў будзе супольнае выступленне ў пасольства Грэцыі прадстаўнікоў Саюза грэкаў і Саюза македонцаў у справе дыскрымінацыі македонцаў-бежанцаў, якім не дазваляецца цяпер вярнуцца ў Грэцыю, а нават паехаць на магілы блізкіх. Гэтая справа закраналася на семінары. Выступілі на ім, між іншымі, Лена Глагоўская (з дакладам пра ролю Гданьска для беларускага нацыянальнага руху), сябра БНФ з Вільні Юрась Шаўцоў. Старшыня Саюза украінцаў у Польшчы Юры Рэйт прадставіў праблемы нацыянальных меншасцяў, іх становішча і адносіны да іх палітычных уладаў. Перасцерагаў, каб нацыянальныя меншасці не сталіся аўкцыённай картай у адносінах паміж суседзямі.

На заканчэнне яшчэ пару слоў пра менскі муніцыпальны тэатр "Дзе-Я?" (варта будзе пабачыць яго ў Беластоку). Тэатр гэты, як кажа яго кіраўнік, Мікола Трухан - "звязаны з нацыянальнай свядомасцю і філасофіяй народа, надзеямі, роспаччу, марамі, і немагчымасць іх здзяйснення стала галоўнай для мастацкага стылю тэатра". Прагучалі са сцэны словы беларускія, праўдзівыя: "Трэба ладзіць чалавечыя законы, яле як? Палітыкай, ці бітвай?"

І не палітыкай, і не бітвай, а - разуменнем сябе. Такія сустрэчы, між іншым, павінны ў гэтым дапамагаць.

**МІРА ЛУКША**
**Фота аўтара**

### СХОД ЛІТАБ'ЯДНАННЯ „БЕЛАВЕЖА”

У лютым г.г. скончылася чатырохгадовая кадэнцыя Управы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”.

28 лютага 1993 г. адбудзецца сход, на якім беларускія пісьменнікі ў Польшчы выслухаюць справаздачу з працы Праўлення, падыскутуюць над ёю, а затым выбяруць новыя ўлады Літаб'яднання, якое ў гэтым годзе адзначае сваё 35-годдзе.

**ПРАЎЛЕННЕ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ**

 

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

# ГІСТОРЫЯ ВЕРАГОДНАЯ

*(З СЕРЫІ НАЙБОЛЬШ НЕВЕРАГОДНЫХ)*

Ян Саловей сядзеў у сваім кабінеце за бліскучым сталом, заваленым паперамі. Усё ніяк яшчэ не мог паверыць у сваё шчасце, аб якім марыў доўгія гады: яго зрабілі кіраўніком аддзела. Значыць, нездарма ён змагаўся за дэмакратыю ў восемдзесят першым!

Ян доўга ішоў да гэтай пасады ў даволі-такі антыбеларускім асяроддзі. Ад восемдзесят дзевятага, калі пачаліся радыкальныя змены, прадбачлівы перастаў афішавацца з „Нівай", а ад дзевяностага зусім перастаў купляць яе. Так на ўсякі выпадак, хаця па сутнасці баяцца не было чаго. У краіне ж наступіла адліга.

У ніякіх размовах не вяртаўся да свайго беларускага мінулага. Вітаў і пахваляў без разбору ўсё новае, што было з духам часу, не грэбаваў нават дробнымі свінствамі ў адносінах да колішніх калег, што пры ўсіх зменах засталіся сабою, і... стаў урэшце кіраўніком аддзела.

З беларускай шчырасцю узяўся за парадкаванне спраў. Гартаў паперкі, нешта дапісваў, папраўляў, адны выкідаў у кош, іншыя перадаваў сакратарцы для далейшага афармлення. Што ні кажы, але ахвоты да працы ў яго прыбыло.

* * *

Падазроны шум за сцяной, дзе сядзелі працаўнікі аддзела, прымусіў яго ўстаць з месца і выглянуць са свайго кабінета. Нешта цюкнула яго, а мо проста быў несвядомы таго, што ўчуў беларускія словы. Збялеў, калі ўбачыў, што яго супрацоўніцы на чале з сакратаркай тлумачылі старой, як дайсці да патрэбнай ёй бальніцы. Старая, як катрынка, усё паўтарала на беларуска-польскай трасянцы, што тут недзе працуе Ваня Салавей, яе сын, ён бы ёй найлепш растлумачыў, дзе тое „пээска", але супрацоўніцы Яна нічога з гэтага не маглі ўцяміць. Зразумелі толькі, што жанчына прыехала з вёскі і шукае бальніцу, дык адна перад другой талкавалі ёй, як можна туды трапіць.

— Ваня, сынок! — радасна ўсклікнула маці, убачыўшы кіраўніка на парозе кабінета, і кінулася да яго.

Увесь непакой, усе страхі перад лекарам, перад вялікім горадам быццам рукой адняло. Яе сын быў тут, побач з ёю. Старая Тэкля ўздыхнула з палёгкай і, шчаслівая, апусціла вочы. Калі ізноў глянула на сына, не пазнала яго.

— Pani mnie z kimś pomyliła, — холадна сканстатаваў Ян Саловей і даволі-такі энергічна адапхнуў ад сябе старую, з нясмакам скрывіўшы пры гэтым нябрыдкія губы.

Супрацоўніцы Яна ад уражання аж прыселі. А ён, быццам бы нічога і не здарылася, спытаў, чаго яна хоча, а пасля выйшаў з ёю на двор, нібы паказаць па-людску, як трапіць у тую бальніцу.

У пакоі грымнуў смех. Супрацоўніцы бачылі праз вакно, як іх шэф махаў рукамі ў злосці да старой. Відаць, выгарнуў ёй усё, што накіпела на душы. А прынамсі тое, што ў такім моманце, калі ўсё ідзе так добра, хоча папсаваць яму кар'еру.

Вярнуўся хутка, маглі ж бы штосьць благое пра яго падумаць.

* * *

Глытаючы слёзы, каб ніхто не бачыў яе паніжэння, паплялася Тэкля шукаць тую бальніцу. Не бачыла на вочы, куды ідзе. Сказалі ісці проста, а тады будзе вялікі будынак. Ну, дык пайшла. Адзін Бог ведае, што толькі за гэтыя хвіліны перадумала яна.

Быў яе любімым сыночкам, якога Бог саслаў ім на старыя гады. Песціла яго, мілавала, як ніводнае сваё дзіця, і спадзявалася менавіта ад яго апекі на старасць. Зорку з неба, здаецца, зняла б яму. Іншыя дзеці засталіся гаспадарыць у іх пушчанскай глухамані, а яго вывучылі ў сваёй, беларускай школе. Ад тае школы пачалося, і ў людзі хлопец выйшаў. Але і здольны быў, дык яго да сялянскай працы не гналі. Ведалі, што рабілі. Вось жа і начальнікам стаў!

Твар жанчыны пасвятлеў, слёзы перасталі душыць яе. Абы яму было добра. Мы ўжо неяк дажывем, пацяшала яна сябе...

Схамянулася перад нейкай вялізнай будынінай. Думала, што гэта ўжо тая бальніца. А тут бачыць: не, універсітэт. Што рабіць, каго пытацца?.. Старая стаяла, разгубленая, сярод халоднага абыякавага натоўпу і не ведала, куды падацца. У сваіх думках завандравала была далёка-далёка. Хадзіла па квяцістых лугах і пушчанскіх пералесках са сваім пестуночкам на руках. Здавалася ёй нават, што была ізноў маладой і здаровай, а жыццё яшчэ перад ёю.

Нехта штурхнуў нягеглую старую, яна адскочыла, ледзь не трапіла пад дзіцячую каляску. Трэба ўцякаць, але куды? Ды сына!

Забыўшыся пра ўсё, імчалася старая жанчына назад, па той жа дарозе, што і прыйшла. Сын, ён жа так блізка, у самым цэнтры горада, ён напэўна пакажа ёй, дзе тая бальніца, а мо нават і падвязе. У яго ж самаход улажыла і яна свае старэчыя, адрываныя ад рота залатоўкі...

Адважылася і вярнулася да сына на працу. І... адразу ў яго кабінет.

— Czego się pani dzisiaj do mnie przyczepiła? — гыркнуў любімы сынок, пальцы яго ўпіліся ў яе старэчае плячо і на вачах усіх прысутных ён дэманстрацыйна выкінуў маці на двор.

— Jakaś nienormalna, — кінуў ён толькі анямелым калегам у сваё апраўданне ды зачыніўся ў кабінеце.

* * *

Старая, заліўшыся горкімі слязьмі, выйшла на чужую вуліцу. Ішла наперад, не ўзіраючыся ні на людзей, ні на паток машын. Ужо не ўстрымлівала сваіх пачуццяў, плакала наўзрыд, як дзіця. Плакала па сваім сыне.

* * *

Калегі — як калегі. Крыху паспачувалі старой, крыху пасмяяліся з шэфа. Смяяліся шчыра і асуджалі шчыра паставу свайго кіраўніка ў гэтай жаласліва-смешнай гісторыі. А пра сваю ролю ва ўсім гэтым **(мы такія, якімі нас створыць асяроддзе)** неяк і не падумалі...

Гісторыя гэта як найбольш аўтэнтычная, наскрозь верагодная, хаця з серыі найбольш неверагодных. Зменены толькі імёны і прозвішча.

**АДА ЧАЧУГА**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Паважаны спадар рэдактар „Нівы"! Я вельмі ўдзячны, што атрымліваю газету „Ніва", шмат тут ёсць цікавага і павучальнага ў вашым тыднёвіку. Калісьці я выпісваў „Ніву" праз сп. Кажуру, што жыў у Нью-Джэрсі, а таксама мне выпісвала ў Польшчы адна знаёмая. Сп. Кажура памёр, а іншая справа — я жыву ў Нью-Йорку, Лонг-Айленд, а тут ніхто не займаецца выпіскай „Нівы". Усё ж нехта мне выпісвае „Ніву", але я не ведаю, хто! Мне трэба падзякаваць, але я не ведаю, каму. Хто так засакрэціўся, што выпісвае мне газету?

Ці паважаная рэдакцыя можа даць мне імя і адрас таго, хто выпісвае мне „Ніву", каб я мог гэтай асобе падзякаваць? Зразумейце, я адчуваю сябе вельмі пакрыўджаным, што не магу нічым адплаціць.

З найлепшымі пажаданнямі
**Кастусь Верабей,**
**Нью-Йорк**

**Адказ.** Ай-ай-ай, даражэнькі спадар Кастусь! То Вы пра мяне зусім забыліся?! А памятаеце, як у канцы жніўня 1990 года мы сустрэліся з Вамі ў нью-йоркскай царкве Кірылы Тураўскага, дзе адбывалася сяброўская сустрэча перад XIX з'ездам беларусаў Паўночнай Амерыкі?! Нас пазнаёміла мая прамілая апякунка ў Амерыцы сп. Вера Бартуль, я як сёння памятаю той момант, калі Вы са сваёй сімпатычнай жонкай падыйшлі да нас. Вы тады папрасілі выпісаць Вам „Ніву", і вось ужо трэці год я выпісваю яе рэгулярна кожны квартал.

Ад нашай з Вамі надзвычай кароткай сустрэчы ў мяне засталося вельмі прыемнае ўражанне. І, як відаць, я не памылілася. Такіх сумленных людзей, як Вы, не сустрэнеш сёння на кожным кроку. А „Ніву" я сапраўды выпісвала Вам і буду рабіць гэта надалей з вялікай прыемнасцю, хаця кожнаму, бадай, ясна, што гэта не на цяперашнюю нашу журналісцка-жабрачую кішэнь. Ёсць, аднак, справы важнейшыя за грошы.

З пашанай
**Ада Чачуга**




**ЧАСТКА XXIX**

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Разумею, што апісаная мною ў папярэднім адрэзку гісторыя толькі паглыбіць недобразычлівыя адносіны маіх размоўцаў да капіталізму. Аднак летапісец, а такім быць прагну ў гэтым цыкле, мае абавязак прадстаўляць усё згодна з праўдай і жыццёвым аўтэнтызмам. Зрэшты, селянін які чытае „Ніву" з'яўляецца сёння рэдкасцю. А тыя, што калісьці яе выпісвалі, найчасцей адказваюць: „Кінуў падпісвацца, бо яны толькі грызуцца. Дуракі!" Кантактуючыся з беларусамі з Польшчы і Рэспублікі Беларусь, пытаю часам людзей, ці самі не хацелі б быць капіталістамі. На такое пытанне аграмадная большасць размоўцаў махае рукамі і гаворыць: „Якія з нас капіталісты", „А навошта мне гэта", „Я не хачу нікога душыць", „Я не хачу жыць чужым коштам", „А што, я выглядаю на грабежніка?!" Адзін пажылы ўжо селянін, каля сямідзесяці гадоў адказаў наступнае:

„Не толькі не хачу я быць капіталістам, але калі ты якога знаеш беларускага капіталіста, то яму скажы, што тут на гэтым свеці то ён можэ на чужой крыўдзе разжыцца і збагаціцi, а можэ ўсё жыце ашукваць людзей, але Бога то ён не ашукае. Скажы гэтым капіталістам, бо яны напэўно аб гэтом не знают, што Хрыстос быў найбяднейшым чалавекам на свеці. І цэлы его маёнтак змяшчаўся ў адной торбі. Таму якраз ніякі багач не можа гаварыць аб сваёй рэлігійнасці. Калі штось такое гаворыт, то ён лжэ як сабака. А трэбо знаць, што лгаць перад людзьмі то вялікі грэх, але лгаць перад Богам то грэх такі, за які трэбо будзе пасмажыцца ў пеклі. Скажы ім яшчэ і тое, што вэдлуг Біблії для багатых німа месца ў раеві. Німа! У Біблії сказано выразно, што так як вэрблюд не пралезе праз ігольнэ вухо, то так багаты не пралезе ў божэ царство. Варто было б, каб гэты капіталісты гэто добрэ запомнілі. Ну, вядомо, што я гаварыў бы па-дурному, калі б хацеў, каб усе людзі так, як Хрыстос, мелі па адной торбі і каб былі жабракамі. Вядомо, што не! Ніхай чалавек мае сабе і адзёжу, і абутак, ніхай мае і дом, і машыну, ніхай мае што з'есці і выпіці. Дзело ў том, каб на гэто ўсё ён зарабіў сваімі рукамі або сваімі мазгамі. А тут што мы бачым? Ганяюцца па вёсках, наляцят на мужыка: прадай збожэ, прадай каня, прадай свіню. Ї так цябе круціт, і так муціт, каб вырваці ад цябе за паўдарам, каб цябе ашукаці, каб ты за свой труд меў як найменш. Ї што ты думаеш, яны ўмеют гэто рабіці, круцят-муцят так доўго, аж нарэшце зб'ют мужыка з панталыку і вырвут тое, што хочут за поўцаны. Ну то як ты думаеш, для такого жуліка то дзе месца, у раеві, ці ў пеклі? Вядомо, што ў пеклі. Нябось, там яму ўсё прыпомнят, за ўсё трэба будзе разлічыцца. Ну, мой унучок прыехаў з Беластоку, „Ніву" прывёз і сам мне чытаў, што войт, хібо гэто будзе ў Нараўцы, а можэ ў Нарві, у месяц больш за адзінаццаць мільёнаў грабе. Ну то ты мне скажы, дзе ў чалавека совесць? То ж трэбо добрэ свіншчэ завезці на базу, каб узяць мільён злотых! Такое свіншчэ то трэбо цэлы рок карміці. То выходзіт так, што трэбо, каб кожны месяц адзінаццаць гаспадароў вазіло па адным паршуку, каб войту выплаціць месячны заробак. А колькі ў рок трэбо паршучкоў? Ну, вядомо, трэбо, значыцца, 133 паршукі, каб аднаго войта ўтрымаці. Ты толькі падумай! То выходзіт, што ўся гміна толькі і годна для таго, каб войт жыў у раскошы! То чы ж такое было пры народнай уласці! Зрэштаю, мне адзін разумны чалавек то гаварыў такое, што цяпер тое ўсё, тые былые сакратары парціі, або якіе інструктары чы чыноўнікі, то яны парабіліся новымі чыноўнікамі або, як мы гаворым, тымі капіталістамі. Гэто тые самы чэрці. Не, брацішку, я пажыў у дэмакрацыі як у Бога за плячыма і мне ніякага капіталізму не трэба.

Другое дзело — мой унучок. Ён то ўжэ на многі дзела глядзіт інакш чым я. Бо і я ж калісь то інакш ацэньваў жыцце, чым мой бацько чы дзед. Унучок мой то ўсё думае, што ему ўдасца штось такое зрабіці, што ён збагацее. Але лета ідут, а ён штосьці не багацее. І вельмі часто, варочаючыся ў Беласток, пытае: „Дзеду, дасі сто тысяч, бо не хватае?" І выцягаю тые запасы, што я яшчэ ад Ракоўскага трымаю. Я то часом яго возьму і спытаю, ну а як то будзе з тваімі дзецьмі, калі за навуку пачнуць браць аплату? Ну, а што будзе, калі табе павялічат у два разы той цэлы чынш! А што будзе, як за дохтара трэбо будзе плаціці? То ты думаеш, што ён мне каже? Нічога не кажэ, маўчыт як, ні тут гаворачы, усраўшыся. Нібось мне лгаці не будзе, бо знае, што мяне не вельмі ашукаеш. Відно і сам баіцца таго, што будзе.

Ты знаеш, што чытаю я Біблію, чытаю, а пасля то яшчэ возьму і дадаткова памалюсе Богу. А знаеш, чаго прагну? Прагну, каб не дай Бог не вярнулася тое, што было ў Польшчы перад вайною. Ой, бяда была. І калі бачу ў целевізары такого аднаго чы другого жуліка, што хваліт перадваенную Польшчу, то мне аж скура шэрхне, ей Богу страшно! Але думаю, што Бог то ні дапусціт да гэтаго капіталізму".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЖЫВЁЛЫ У БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРЫ

Беларусы да сённяшняга дня захавалі свой надзвычай багаты фальклор. Казкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі, песні, народная музыка, скокі (танцы), вопратка, ручнікі, абрусы, паясы - далёка не поўны пералік - і складалі народную культуру беларусаў. Нават сёння відаць, што яна была багатай, разнастайнай і надзвычай змястоўнай, яе нельга было зблытаць ні з якой іншай.

Гэтыя нацыянальныя скарбы не загінулі перш за ўсё таму, што на працягу тысяч гадоў існавання нашага народа вусныя паэтычныя творы, рэчы і мастацкія вырабы былі штодзённай патрэбай, неабходнасцю перш за ўсё духоўнай, сталі неад'емнай часткай асобы беларуса. Да таго ж усе гэтыя творы і рэчы выкарыстоўваліся ў шматлікіх абрадах, што выконваліся ў гонар Сонца, падчас гаспадарчай працы, значных падзей у жыцці чалавека.

Кідаецца ў вочы, што ў песнях, загадках прысутнічаюць расліны ды істоты навакольнага свету. На рэчах, тканых ці разьбяных, на будынках, на пернікавых формах, на прасніцах найчасцей сустракаюцца вывы кветак, жывёл і птушак.

Многія з іх трапілі ў творы беларускага фальклору, але першынство, відаць, трэба аддаць казе.

### КАЗА

На каляды беларускія шчадроўнікі "водзяць казу".

Чаму менавіта каза трапіла ў найважнейшы - бо пачынае год і ладзіцца ў гонар Сонца-бога - беларускі абрад? Відаць, невыпадкова. Як кажа беларуская прымаўка, дарма і каза не скача.

☞ Працяг на стар. 10



*Цымбалісьтачкі з Менска* **Фота М. Ваўранюка**

## ЯК ВОЎК У ЛЯСНЫ ЗААПАРК ТРАПІЎ

*КАЗКА*

У Пушчы дружна жылі звяры і птушкі. Адзін да аднаго ў госці хадзілі. Адзін з адным радасцю дзяліліся. І песня ў іх была адна на ўсіх: "Нам не страшны Шэры Воўк".

Пачуў аднойчы тую песню Воўк і вызверыўся:

- Бач ты іх! Спеліся!..

І кінуўся разганяць пушчанскіх жыхароў.

Доўга бегаў Воўк па дубровах, па сасонніках ды ельніках - страх на звяроў і птушак наганяў. А стаміўся - сеў на пень і радуецца:

- Во як напалохаў іх! Будуць помніць!..

А пушчанскія жыхары тым часам ачомаліся, сабраліся на паляне і пачалі думаць, як ім быць з шэрым разбойнікам.

- Мала шкуру спусціць! - сказаў Цецярук. - Ён з мяне самае прыгожае пёрка з хваста выдраў!

- А мне вушы накруціў, - пажаліўся Заяц.

- А мне футра сапсаваў, - паскардзіўся Барсук.

- А мне хатку разбурыў, - заплакаў Бабёр.

Хацелі паскардзіцца на шэрага разбойніка яшчэ многія звяры і птушкі, ды слова ўзяў стары Зубр.

- Сапраўды, Ваўка пакараць варта. Але перш чым караць, трэба яго злавіць. Пачынайце аблаву!

Птушкі і звяры аблажылі тое месца, дзе сядзеў Воўк, навалiліся на яго гуртам, стрыножылі і павалаклі на паляну.

Зубр спытаў:

- Які прысуд вынесем разбойніку?

- Шкуру спусціць! - стаяў на сваім Цецярук.

- І кіпцюры абрэзаць! - дадаў Заяц.

- І ў смалу выкачаць! - параіў Барсук.

- І бляшанку да хваста прывязаць! - выкрыкнуў Бабёр і яшчэ мацней заплакаў. - Няхай тады палётае па лесе!..

Зашумелі і астатнія звяры і птушкі, але зноў слова ўзяў Зубр:

- Не, - сказаў ён. - Шкуру спускаць, кіпцюры абрэзваць, у смалу выкачваць, бляшанку да хваста прывязваць - не будзем. Найгорш для ваўкоў, калі пальцамі на іх паказваюць... Здамо ў заапарк!

Так і зрабілі. Увапхнулі Ваўка ў клетку і панеслі ў лясны заапарк. А там ужо сядзелі за розную правіннасць і хітры Ліс, і лупатая Сава, і плюгавы Тхорык. Убачыўшы іх, Воўк толькі хвост падцяў і апусціў вочы.

Прыйшла ў заапарк Цяцерка, прывяла з сабою цэлы выводак цецеранят. На Ліса, Саву і Тхорыка яны і ўвагі не звярнулі. А ўбачыўшы Ваўка - зашумелі:

- Будзеш ведаць, як пёркі ў птушак вырываць!

А тут Зайчыха з зайчанятамі:

- Будзеш ведаць, як вушы зайцам круціць!

А тут Барсучыха з барсучанятамі:

- Будзеш ведаць, як футра барсукам псаваць!

А тут і Бабрыха з бабранятамі:

- Будзеш ведаць, як хаткі бабрыныя разбураць!..

Воўк аж па клетцы забегаў, нібы сапраўды да хваста бляшанку прывязалі.

А звераняты і птушаняты, пакідаючы лясны заапарк, заспявалі:

Нам не страшны Шэры Воўк,
Шэры Воўк, Шэры Воўк!..

І Воўк не вытрымаў такой ганьбы - сеў і завыў. На ўсю Пушчу. Працяжна і жаласліва.

Бабранятам і барсучанятам, зайчанятам і цецеранятам шкада стала Ваўка, пачалі мацярок сваіх упрошваць, каб выпусцілі яго з клеткі.

- А што Зубр скажа? - завагаліся тыя і пабеглі на паляну.

Стары Зубр сказаў:

- Калі Воўк ужо завыў, так і быць, пашкадуем яго.

І выпусцілі Ваўка на волю, а заадно і Ліса, і Саву, і Тхорыка. Толькі слова з іх узялі, што болей нікому не будуць шкодзіць.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*ВІКТАР ШВЕД*

### ГЭТА ДОЛАРЫ, ЦІ ГРОШЫ?

Доня некалькі паперкаў
Атрымала на цукеркі.
Грошыкаў яшчэ не знала,
І ці многа іх, ці мала,

Ды ласункаў купіць колькі
У "склепае" Антолькі?
Запыталася ў раскошы:
- Гэта долары, ці грошы?

### ЗВЕРУ ВЫРАСЛІ ГАЛІНЫ

З татулём малы Макарка
Апынуўся ў заапарку.
Хлопец быў у захапленні.
Дайшлі раптам да аленя.

Вылучаўся між звярамі
Ён агромнымі рагамі...
І сцвярджэнне раптам сына:
- Зверу выраслі галіны!

### ЧАМУ БЕТОННЫЯ ПРЫПЫНКІ?

- Ці ведаеш, - спытаў Мікола Нінку,
Каб нейк пазбыцца транспартнай нуды,-
Чаму усе трамвайныя прыпынкі
Бетонныя, як правіла, заўжды?

- Не маю я ніякага ўяўлення,
Аб гэтым, даражэнькі Мікалай.
- Каб людзі не пусцілі тут карэнняў,
Чакаючы залішне на трамвай!

### ПРЫКЛАСЦІ... ПРЫБЫТАК!

- Адчуваю сябе дрэнна,
Мілы Божа, сіл прыдбай!
Галава баліць страшэнна,
Хоць ты ляж ды памірай...

- Трэба даць прыбытак хворай,
Простае - як двойчы два.
Не баліць жа, - кажа Бора, -
Ад прыбытку галава?

### ХТО ПАМАЛЯВАЎ СЦЯНУ?

Мама пачала вайну:
- Хто памаляваў сцяну?!
Разважае Ната:
Мо сказаць, што тата?..

Аднак жа прызналася:
- Сонейка схавалася,
І падумалася мне -
Намалюю на сцяне...

### ДЗІЦЯЧЫ "АРКЕСТР"

У яслі ходзіць Ната.
Дзецям далі "прэзэнты",
У Мікалая свята
Купілі інструменты.

Наўкол паселі дзеці,
Іграюць, не гавораць.
Наталка на кларнеце
Сабе самой уторыць.

Вяртацца нат дахаты
Не хоча ўжо малая,
Хоць бачыць свайго тату:
- Я ж у аркестры йграю!

* * * * * * * * * * * * *

*МІРА ЛУКША*

### ЗЯЗЮЛЬКА

Птушачка-зязюлька,
Чаму ж ты адна?
Ні ў цябе матулькі,
Ні ў цябе жытла...
Няма табе волі
Дзетак калыхаць,
Толькі ў лесе, ў полі
Вечна кукаваць.
Ані табе вераць,
Ні цябе клянуць,
І для красна пёра
Цябе не заб'юць.
Ляціш адзінока
У вырай на зіму...
Да чаго ж з далёка
Вернешся, чаму?..

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК ТАНЬЧЫЦЬ

Мышка Пік-Пік аніяк не магла забыць абразлівыя словы пана Абадрана, які назваў яе таўстухай. Няўжо пра яе, самую прыгожую мышку ў свеце, можна так гаварыць?! Мышка ляжала ў сваёй норцы, меланхалічна грызла сухары і ўздыхала. Нарэшце гэты занятак мышцы надакучыў. Яна выпаўзла з норкі, пакруцілася перад люстэркам, пагладзіла свой кругленькі жывоцік і вырашыла:

- Такая разумная мышка заўсёды зможа пахудзець... без асаблівых цяжкасцей!

Параілася Пік-Пік з Веранічкай. Тая сказала:

- Людзі, якія хочуць пахудзець, меней ядуць, пазбягаюць усяго салодкага...

- Не! Нізавошта! - жахнулася мышка. - Няўжо няма больш людскага сродку?!

- Ёсць, - падумала і адказала Веранічка. - Можна яшчэ займацца гімнастыкай. Мая Мама займалася, таму я ведаю, як гэта робіцца. Трэба рана ўставаць і выконваць практыкаванні.

- Ой, не, - махнула хвосцікам Пік-Пік. - Гэта зусім не весела і вельмі цяжка... Пэўна, я так і не выпраўлю сваю фігуру...

- Успомніла! - узрадавалася Веранічка. - Можна пахудзець яшчэ ад танцаў! Табе трэба больш танцаваць!

- Гэта мне падыходзіць! - таксама ўзрадавалася мышка і пайшла... спаць. А ноччу, пасля добрай перакускі Пік-Пік залезла на Татаў стол і ўключыла прыёмнік. Пры першых гуках вясёлай музыкі мышка пачала скакаць, а Тата - прачнуўся. Ён адразу выключыў прыёмнік і паставіў яго высока на шафу, а мышку прагнаў і прыгрозіў, што калі яна яшчэ раз уключыць ноччу музыку, дык будзе надалей жыць у клетцы. Пік-Пік спалохалася і схавалася. Давялося прачынацца днём.

Веранічка ўключыла тэлевізар, там гралі вясёлую песеньку, і мышка заскакала на месцы. Скакала, скакала, замарылася.

- Не, гэта не цікава - адной танцаваць... Трэба, каб хто патаньчыў са мной.

Веранічка згадзілася і заскакала побач з мышкай, але атрымалася яшчэ горай, бо Веранічка была нашмат большай за Пік-Пік, і мышка баялася, што Веранічка на яе наступіць.

- Ты мне не падыходзіш! - сказала нарэшце мышка. - Мне трэба каго паменей!

Згадзілася дапамагчы Пепіта. Але, трохі патаньчыўшы з мышкай, адмовілася:

- Не магу я танцаваць з тым, хто зусім не ўмее гэтага рабіць! Ты, Пік-Пік, падскокваеш на месцы, вось і ўвесь твой танец. Мне з табой сумна. Бывай.

І Пепіта пайшла па сваіх справах.

Засумавала мышка. І тут Веранічка прынесла са свайго пакойчыка маленькага заваднога сабачку, завяла яго - і сабачка пачаў круціцца і матляць хвосцікам. Пік-Пік узрадавалася і заскакала вакол сабачкі. З тых часоў яны часта таньчылі разам. Пік-Пік нават навучылася сама заводзіць свайго сябра. Наколькі палепшала мышчына фігура - невядома, але сама Пік-Пік была ўжо ўпэўнена, што іншай такой мышкі і ў сусвеце няма.

Што ж, пэўна так і ёсць.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

# ЖЫВЁЛЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРЫ

☛ *Працяг са стар. 9*

Паводле адной афрыканскай легенды, менавіта казе даручыў Бог перадаць людзям вестку пра тое, што яны пасля смерці трапяць да яго на неба - вестку пра бяссмерце. Выявы гэтай жывёліны знойдзены ў наскальных малюнках у гарах Арменіі. У Старажытнай Грэцыі, пачынаючы з II тысячагоддзя да н.э., сярод простага люду быў шырока распаўсюджаны культ Дыяніса - бога раслiннасці. Яго ўяўлялі пераважна ў выглядзе казла. Пад нагою ці капытом гэтага бога мог "пырснуць" фантан віна ці малака... Падобныя ўласцівасці мае і каза, якую водзяць беларускія шчадроўнікі:

*Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць,*
*Дзе каза хвастом, там жыта кустом,*
*Дзе каза нагой, там жыта капой...*

Хто ж быў такі магутны, каб рабіць такія "чары"? Пэўна ж, не сама каза. Яна была толькі атрыбутам, вестуном самага старажытнага і магутнага славянскага бога - Рода. Яго лічылі апекуном раслiннасці і земляробства.

ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО

# ІТАЛЬЯНСКІЯ АНЕКДОТЫ

### НЕ ПАДЫХОДЗЬ

У заапарку маці кажа сыну:
- Не падыходзь блізка да льва, Тото! У яго могуць быць блохі.

### РАМАНТЫЧНАЯ ДУША

Пажылога ўзросту сеньёр гуляе ў парку і бачыць, як маленькі Тото зачараваны глядзіць на пачырванеўшую стужку неба над будынкамі.

- О, мілы хлопчык! Я рады, што ў цябе такая рамантычная душа. Ты кожны дзень назіраеш, як заходзіць сонца?

- Сонца?.. Гэта палае мая родная школа!..

### НАДАКУЧЫЛА

- Сынок, - кажа маці маленькаму Тото, - няўжо ты не можаш хоць крышку лепш паводзіць сябе ў школе? Я не настойваю, каб ты быў выдатнікам, але мне надакучыла хадзіць на бацькоўскія сходы пад чужым прозвішчам!

### ЭКЗАМЕН ТОТО

Тото ідзе здаваць экзамен. Уся сям'я вельмі хвалюецца, паколькі ён далёка не вундэркінд. Праз гадзінку адчыняюцца дзверы, і Тото выходзіць.

- Ну, як? - кідаецца да яго бацька.

- У любым выпадку, найважнейшае - гэта здароўе!

### БРАЦІК ПЛАЧА

- На святую Марыю, я не магу вытрымаць, - скардзіцца маці Тото. - Твой маленькі брацік плача цэлымі днямі! Я ўжо проста не ведаю, што з ім рабіць!

- Як, мама? Няўжо да яго не дадалі інструкцыю карыстання?

### ЧАМУ ЁН ПЛАЧА

Пасярод тратуара стаіць малы і румзае.

- Чаму ты плачаш? - пытае прахожы.

- Мая мама сказала тату, што ён бык. Тата адказаў маме, што яна - курыца!

- Ну і што?

- А хто тады я ?..

### УРОК ГІСТОРЫІ

Настаўнік расказаў дзецям пра вядомага антычнага рымляніна, які кожную раніцу да снедання тройчы пераплываў раку Тыбр.

Раптам адзін вучань пачынае рагатаць.

- Што ты ўбачыў у гэтым смешнага, Тото? - абурыўся настаўнік.

- Мне здаецца, што ён мог бы пераплыць рэчку і ў чацвёрты раз, каб апынуцца на тым беразе, дзе раней пакінуў адзенне.

В. БАБЕЙ

Прыгоды дэтэктыва Гаўка.

Лявон Вольскі































**ПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!**

У апошнія гады на Пружаншчыне, як і ва ўсёй Беларусі, набірае тэмпы працэс адраджэння нашай духоўнасці. У свой час многія дзеячы культуры вымушаны былі пакінуць родныя мясціны і жыць за межамі Бацькаўшчыны. Сярод іх паэт Францішак Ляхоцкі, які нарадзіўся, па нашых звестках, на Брэстчыне. На жаль, мы не ведаем дакладна месца яго нараджэння. Нам вядома толькі, што жыў ён у Англіі. Пісаў на польскай мове. У Лондане выйшлі яшчэ пяць зборнікаў яго вершаў. У 1987 годзе ў ЗША надрукаваны зборнік "Над Мухаўцам". У сваіх творах паэт піша аб роднай сэрцу Беларусі, услаўляе прыгожасць яе зямлі. Магчыма, у Вас ёсць больш поўныя звесткі аб Францішку Ляхоцкім: месцы яго нараджэння, жыццёвым шляху, творчасці. Мы будзем рады атрымаць такую інфармацыю ці ў выглядзе артыкула, ці проста даведкі.

Загадзя Вам удзячны - намеснік рэдактара Пружанскай раённай газеты "Раённыя будні" **Аляксандр Панюціч.**

**Адрас рэдакцыі:**

225140, Рэспубліка Беларусь,
Брэсцкая вобласць,
горад Пружаны,
вуліца Чырвонаармейская, 78,
рэдакцыя газеты "Раённыя будні",
Панюціч Аляксандр Лявонцьевіч.
Тэл. 2-20-54.

Ад рэдакцыі: Чытачоў "Нівы", якія маглі б дапамагчы рэдакцыі газеты "Раённыя будні" і жыхарам Пружаншчыны, якія хочуць ушанаваць памяць свайго земляка, просім напісаць у "Ніву" або непасрэдна спадару Аляксандру Панюцічу.



**ПІРОГ З КАПУСТАЙ**

На паўкілаграма мукі трэба ўзяць 20-25 дэкаў шмальцу, 5 дэкаў дражджэй, 3 яйкі, паўшклянкі малака, лыжачку цукру, соль, 75 дэкаў капусты, 20 дэкаў цыбулі, 20 дэкаў пячурыц, 4 крутыя яйкі, соль, 1 шклянку малака.

Капусту ачысціць і памыць. Цыбулю абабраць, дробна нарэзаць і крыху падсмажыць. Пячурыцы памыць, абсушыць і дробна нашаткаваць, дадаць да цыбулі і разам стушыць, пасаліць. Тады нашаткаваць капусту, укінуць яе ў каструлю з кіпячым малаком і тушчам, пасаліць, варыць некалькі мінут у адкрытай каструлі, а пасля накрыць яе покрыўкай і даварыць. У часе гатавання малако павінна цалкам выпарыцца.

Звараную капусту перамяшаць з пячурыцамі, дадаць солі і перцу.

Калі капуста варыцца, робім цеста. Муку трэба прасеяць, яйкі памыць. Дрожджы расцерці з цукрам, развесці малаком, дадаць столькі мукі, каб атрымалася цеста гушчыні смятаны. Накрыць, паставіць, каб падрасло. Калі цеста павялічыць удвая свой аб'ём, дадаць рэшту мукі, яйкі і растопleны летні шмалец, мясіць яго драўлянай лыжкай, пасаліўшы. Паставіць, каб ізноў падрасло.

Калі цеста падрасце, раскатаць яго, фармуючы прамавугольнік. Уздоўж яго палажыць астуджаную капусту, кладучы на яе палавінкі крутых яек, заляпіць краі цеста, палажыць яго на бляшку і паставіць, каб яшчэ раз падрасло. Уставіць у духоўку, нагрэтую да 160°С.

Падаюць пірог гарачым з таматным ці смятанным соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**



Даражэнькі дзядзька Астрон! Мне сённяшняй ноччу прысніўся дзіўны сон. Быццам мы з дачушкай лавілі ў возеры ці ў рацэ рыбу. Вада была нейкая мутная, ды і рыбы мы ніякай не злавілі. Мо чакае мяне ці дзіця нешта кепскае?

А яшчэ крыху раней снілася мне, быццам прыехала да мяне мая цётка і прывезла мне падарункі. Былі гэта нейкія карцінкі, што вешаюць на сценку. Не ведаю, што гэта за сны.

**Кастусь**

Астроне, мне прысніўся бацька. Быццам я знаходжуся недзе ў дзіцячым лагеры, але ўжо дарослая. Раптам заўважаю, што ў куце стаіць ложак, а на ім мой бацька, накрыты прасцінай. Спачатку я падумала, што ён памёр. Але ж не. Прыпаднімаю я прасціну, а ён жывы, але вельмі слабы. Бледны такі, як бы паміраючы. Я хачу неяк аблегчыць яму цярпенні, шукаю нейкую хусціну ці ручнік, каб памахаць над ім. Думаю, што будзе тады яму прыемны халадок. Шукаю ўсюды, бачу, вісяць на сцяне сціркі, але нейкія яны нясвежыя, хаця бруду ці плям на іх не відаць. Не рашылася я махаць імі над бацькам.

І вось я ўжо на панадворку. Пад вакном хаты расце прыгожая, надта рэгулярная яблыня. Яна ўся абсыпана чырвонымі яблычкамі, цесна — адно пры другім.

Вельмі непакоюся.

**Ганна**

Кастусь! Твой сон пра рыбу, якой не было, сведчыць, што вы з дачкой мелі магчымасць мець выгадны занятак, але нейкія плёткі, мутныя справы ў гэтым вам перашкодзяць.

Другі сон таксама нядобры. Ты спадзяваўся нейкага прыбытку, але няшчырыя сябры ізноў стаяць на тваёй дарозе (карцінкі).

А твой сон, Ганна, гаворыць аб хваробе, нейкай небяспецы (хворы, паміраючы бацька). А мо будзе проста сварка (яблыкі).

**АСТРОН**

## КАСЯК НА "Ц,Ч,Ш"




**Управа:** 1/ ром, але не алкагольны напітак, 2/ кандытарскі выраб, 3/ невуцтва, адсталасць, 4/ кароткі імпульсіўны ўдар, 5/ невялікая пасудзіна, 6/ маральная чысціня.

**Улева:** 7/ кліент "Нівы", 8/ Ты, 9/ змрочнасць, 10/ руль судна або самалёта, 11/ ёсць толькі "ц", а няма "ч", 12/ штаны з кароткімі калошынамі.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на святочны касяк з 1 н-ра. Управа:** літр, бокс, адліга, мяса, запалкі, кенгуру, бярлога, каляндар, геадэзіст, каляды, гісторык, серп, агурок, ранак, сыр. **Улева:** віно, Эрас, компас, лука, Агінскі, славяне, мурлыка, каляднік, журналіст, газета, байдарка, сорт, крэсла, гонар, рак.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

# ГРАНІ ЖЫЦЦЯ

Падлічана, што нават пры ўмове поўнага пазбаўлення чалавецтва ад сардэчна-сасудзістых захворванняў сярэдняя працягласць жыцця людзей павялічыцца толькі на 6—7 гадоў, а пры поўнай ліквідацыі рака — толькі на паўтара года. Пры гэтым стварэнне сродкаў лячэння ўсіх гэтых захворванняў не ўнясе ў жыццё састарэлых нейкіх радыкальных перамен.

У апошні час усё большую ўвагу вучоных прыцягвае біялагічны напрамак барацьбы са старасцю, гэта значыць напрамак, які ставіць сваёй мэтай распрацоўку сродкаў штучнага змянення самых натуральных або, як гавораць вучоныя, відавых тэрмінаў наступлення старасці і смерці і ўсё большага іх адцісканне за межы існуючых сёння граніц. Адкрываецца перспектыва падаўжэння не старэчага, а сталага, актыўнага і працаздольнага перыяду жыцця людзей.

Канчатковая мэта геранталогіі — лічаць вучоныя — прыбавіць не толькі гады да жыцця, але і жыццё да гадоў, г. зн. прадоўжыць актыўны перыяд творчай дзейнасці старых. Гэта вызначае тактычныя і стратэгічныя задачы вучоных. Тактычныя задачы — гэта барацьба з заўчасным старэннем і хаця б частковае асваенне нявыкарыстаных рэзерваў, якія вызначаюцца розніцай паміж сучаснай сярэдняй і відавой працягласцю жыцця чалавека, а таксама захаваннем практычнага здароўя ў так званым трэцім узросце. Стратэгічныя — гэта працяг актыўнага даўгалецця звыш тэрмінаў відавой біялагічнай дзейнасці жыцця.

З узростам чалавек затрачвае менш энергіі, з меншай магутнасцю працуюць і яго ферментныя сістэмы. Такім чынам, старасць патрабуе менш каларыйнай ежы. Аднак, як паказваюць назіранні, большасць пажылых людзей у харчаванні ўмеранасці не захоўваюць: кожны трэці харчуецца вышэй сваіх нормаў, кожны пяты мае залішнюю вагу цела. Даследаванні герантолагаў пацвердзілі, што забароненых прадуктаў для пажылых людзей няма, неабходна толькі ўмеранасць у харчаванні.

Яшчэ адзін даволі эфектыўны сродак барацьбы з заўчасным старэннем — рухавая актыўнасць. Яшчэ вядомы французскі медык Цісо сказаў: „Рух здольны замяніць любое лякарства, але ўсе лякарствы не здольны замяніць карысць ад руху".

Многае ў прабледме даўгалецця, на думку вучоных-герантолагаў, залежыць ад самога чалавека. Не выпадкова гавораць, што найлепшы сродак прадоўжыць жыццё — гэта пастарацца яго не ўкарочваць.

Нядаўна правялося апытанне 140 людзей, якія доўга жывуць. Аказалася, што асаблівых „сакрэтаў" даўгалецця ні ў каго з іх няма. Усе іх тлумачэнні можна абагульніць наступным чынам: бесперапынная працоўная дзейнасць па меры сіл і магчымасцей, актыўны лад жыцця, прабыванне на свежым паветры, напрыклад, работа на пашы, у садзе, у агародзе, разнастайная, але ўмераная ежа.

Большасць людзей, якія жывуць больш за сто гадоў, не ведалі тытуню і не злоўжывалі спіртнымі напіткамі.

Усё новыя факты сведчаць, што жыць доўга, захоўваючы да старэчых гадоў добрае здароўе, можна не толькі ў выбраных раёнах зямлі.

**(а-ця)**

## САЛАМЯНАЯ ПОМПА

Калі ўсю ваду, што ўжывае гектар пшаніцы за час росту, выліць адразу на гэту ж плошчу, то яна апыніцца пад вадой на 30—40 сантыметраў. Кожны кілаграм зерня пшаніцы да перыяду выспявання „перапампоўвае" праз саломінкі больш чым тону вады.

**(а-ця)**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 marca 1993 r. Wpłaty przyjmują wszystkie urzędy pocztowe.
2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w II kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4500 zł., a kwartalnie - 58500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

## МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры „белавежскія"*

### ВІЦЯ ПУЦЯВОДНЫ

Сніўся Віці дзіўны сон,
Быццам к зоркам ляціць ён.
Падрос, пастараўся,
на „Зорку" узабраўся.
— Запаветны быў той сон! —
Віця мне ва ўнісон.
— А раскіс. Распусціў нюні...
Адгадай лепей, Віцюня,
Нашто людзям дадзен нос?
— Чхаць на лёс.
— Малайчына,
Зух — хлапчына.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## АНЕКДОТЫ

У цемнаце раздаецца крык:
— Ратунку!
Падбягае мужчына і бачыць: на лавачцы сядзіць адзінокая жанчына і крычыць.
— Што сталася?
— Мяне 10 гадоў назад на гэтай лавачцы згвалтавалі.
— А чаго цяпер крычыце?
— Прыемна ўспомніць!..

* * *

Жаночая логіка: „Мяне муж так здраджвае, так здраджвае, што я не ведаю, ад каго ў нас дзеці..."

* * *

Паведамленне па радыё: „Увага! У гарадскім парку з'явіўся сексуальны маньяк. Праезд аўтобусамі 7 і 16..."

* * *

— А дзе прапала твая чароўная сяброўка?
— Мы з ёй рассталіся.
— Ты адмовіў такой сімпатычнай дзяўчыне?
— Не буду спрачацца, яна мілая, але ў яе непрыемны смех.
— Гэта мяне здзіўляе, ніхто з нашай кампаніі нічога такога не прыкмеціў...
— Гэтага толькі не хапала, каб хтонебудзь трэці бачыў, як я раздзяваўся!

* * *

Суддзя звяртаецца да абвінавачанага:
— Ці абвінавачаны падвяргаўся ўжо пакаранню?
— Так, дваццаць год таму назад.
— А пасля таго?
— Ані разу.
— Што абвінавачаны рабіў у гэты час?
— Сядзеў у турме.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## НІЎКА




*— Доктар, пазбаўце мяне ад гістарычнай памяці.* **Мал. В. Ключніка**

## ПЫТАЛЬНІК

— Што будзе, калі плошчу Незалежнасці ў Менску заліць вадой?
— Будзе „Ленін у Разліве".

* * *

— Ці можа навукова-тэхнічная рэвалюцыя перамагчы ў адной, асобна ўзятай краіне?
— Можа, таму што ў астатніх яна перамагла ўжо.

* * *

— Чым адрозніваецца правы чаравік ад левага?
— Калі мець на ўвазе абутак айчыннай вытворчасці, то правы чаравік ад левага адрозніваецца размерам і колерам.

* * *

— Чым адрозніваецца „Мерседэс" ад „Запарожца"?
— У адрозненне ад „Запарожцаў" „Мерседэсы" ніколі не пісалі пісьмаў турэцкаму султану.

* * *

— Ці можа буравая платформа стаць марксісцкай?
— Можа, калі яна дасвідруецца да трох крыніц.

* * *

— Як можна падзяліць чалавецтва?
— Чалавецтва дзеліцца на разумных — якія вучацца на памылках дурняў, на дурняў — якія вучацца на ўласных памылках, і на савецкіх людзей, якія толькі робяць памылкі, але нічаму не вучацца.

*„ЗВЯЗДА"*

### ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЯЎ ШЧАСЛІВАГА ЧАЛАВЕКА

1. Чалавек нараджаецца змучаны і жыве, каб адпачыць.
2. Кахай свой ложак як сябе самога.
3. Адпачывай удзень, каб мог спаць уначы.
4. Калі бачыш, што хтось адпачывае, памажы яму.
5. Праца стамляе.
6. Што ты павінен зрабіць сёння, зрабі паслязаўтра! — Будзеш мець два свабодныя дні.
7. Калі ты павінен зрабіць нешта, а гэта для цябе зацяжка, дазволь гэта зрабіць іншым.
8. Задоўгі адпачынак ніколі нікога не давядзе да смерці.
9. Калі агортвае цябе ахвота працаваць, сядзь і пачакай, пакуль табе не пройдзе.
10. Праца робіць чалавека шляхетным, лянота — шчаслівым.

## РЭПКА

*Старая казка на новы матыў*

Пасадзіў дзед-арандатар рэпку. Не гультайнічаў, працаваў. Вырасла рэпка вялікая-вялікая.

Наспеў час яе на рынак везці. Але з тэхнікай няўвязка. Вырашыў дзед сам убраць ураджай. Тым больш, з дзяцінства ведаў, як гэта робіцца.

Цягне-цягне - ні з месца. Напружыўся, папляваў на далоні - вынік той жа.

Вырашыў паклікаць на дапамогу Бабку, Унучку, Жучку, Котку, Мышку.

Ды зноў няўвязка.

Бабка ля блакітнага экрана паміж "Рабыняй Ізаўрай" і турнірам тэнісістаў разрываецца. Унучка дагаворнымі справамі ў горадзе маецца. Жучка вахцёрам у нарыхтоўчай канторы ўладкавалася. Котка на гарышчы хлява на суседняй ферме з катом Васькам мурлыкае. Ну, а Мышка за працу цвёрдую валюту патрабуе.

Зазімавала рэпка.

...Толькі самую маленькую выкінуў Дзед на базар. І прадаў па небывалай цане.

**АНАТОЛЬ ПЕРАГУД**

### КОНКУРСЫ

У ваколіцах горада Пупска з поспехам прайшоў конкурс „Лясная прыгажуня". На жаль, пераможца так і не была названа, бо асноўных прэтэндэнтак высеклі пасля першага тура.

### НОВЫЯ ШПАЛЕРЫ

У горадзе Пераплюйску з учарашняга дня пачалі продаж новых шпалераў, на якіх у натуральную велічыню намаляваны мэблевыя сценкі імпартнай і айчыннай вытворчасці.




*Мал. Ю. Рыжыкава*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! У шостым нумары за гэты год ты пісала пра шалёнае каханне Мар'яны да чалавека, з якім усё ў яе адбываецца не зусім звычайна, не як у іншых, але з вялікім пачуццём. І ёй гэта прыемна.

Хачу табе, Сэрцайка, прызнацца, што і са мной здарылася нешта падобнае. Яшчэ да нядаўна ў мяне быў амаль такі ж хлопец. Калі сустракала яго, аж дрыжыкі па мне ішлі. Такое вычвараў, што свету за ім я не бачыла. Але аднойчы, калі я мела быць на рабоце, шэф выслаў мяне афарміць у горадзе нейкую справу. Я ўсё зрабіла вельмі хутка і вырашыла яшчэ заскочыць у кавярню на каву. Гляджу, а мой хлопец сядзіць з іншай дзяўчынай, вельмі прыгожай, дарэчы. Так загледзеўся на яе, што нават не заўважыў мяне. Чулліві яго позірк, які кранаў бы кожнага, разануў мяне па сэрцы. Позірк быў скіраваны, вядома, на тую дзяўчыну. Я не з такіх, што буду кідацца да чалавека. Нават не села за столік. Купіла толькі ў буфеце марожанае і, ліжучы яго, растрэсеная дашчэнту, выйшла з кавярні.

Што было рабіць... Ішла я бяздумна па вуліцы, пахадзіла па парку. Думаю: усё, скончылася гэтая забава. Знайшоў новую цацку, а я сілком яго трымаць не буду. Старалася пераканаць сябе, што хлопцаў на свеце многа, а я не апошняя дзяўчына. Знайду і я кагосьці.

Вельмі я перажывала гэта, а тут нечакана звоніць ён мне на работу. Як ні ў чым не бывала, хоча сустрэцца са мной, як заўсёды, у яго хаце. У мяне ў сярэдзіне ўсё перавярнулася. Як гэта, кажу, а што, у новай сяброўкі часу сёння няма? А ён прыкідваецца, што не ведае, пра што я гавару. Я тады яму проста з моста ўсё і расказала, што бачыла.

Уяві сабе, Сэрцайка, сказаў, што гэта была толькі службовая сустрэча. Тая дзяўчына мела яму быццам дапамагчы хуценька афарміць загранічны пашпарт.

А што было рабіць? Паверыла. Ізноў пачалі сустракацца. Спатканні былі гарачыя, як і раней, і я не мела падстаў падазраваць майго партнёра ў здрадзе. Так умеў пераканаць у сваіх пачуццях, так адурманіць, што я была ўпэўнена ў яго прывязанасці да мяне. Часамі толькі сумнявалася, ці такому „артысту" хопіць адной дзяўчыны, але ўспамінаючы нашы палкія сустрэчы, ніяк не магла ўявіць сабе, што можа кахацца яшчэ з іншай.

Праўда, сяброўкі няраз гаварылі мне, што частавата бачаць яго з іншымі дзяўчатамі, а адзін сябра сказаў нават, што ён бы ў ложак пайшоў і з кульгавай, і з сляпой. Я думала, што яны проста зайздросцяць мне майго шчасця.

І вось наступіў пэўны момант, калі мой каханы не вытрымаў. Не мог доўга іграць сваю ролю і выявіўся. Уяві сабе, Сэрцайка, кажа каторагась дня: „Сумна неяк. Прыйдзеш сёння?" Я кажу, што як заўсёды прыду. „Ну, дык прыдзі сёння з якойсьці сяброўкай!" — кажа гэты нахал. У мяне пацямнела ў вачах, але трымаюся. „З якой, — пытаюся, — з бландзінкай, брунеткай ці можа рыжай?!" „Усё роўна, — адказвае ён, — абы была бабай!"

І тут я зразумела, што ўсё, што расказваў мой калега, ды і сяброўкі таксама, — усё гэта магло быць праўдай. Напэўна было праўдай.

Больш я не сустракаюся з „маім" хлопцам. Ці ж можна было зрабіць што іншае?

**Галіна**

Галінка! Добра ты зрабіла, ды толькі трэба было так учыніць раней. Дыму без агню не бывае. Калі людзі гаварылі, нешта ў гэтым мусіла быць. Пэўна, кожная дзяўчына лічыла яго за свайго. Дзяўчаты часта бываюць наіўныя, лічачы, што яны — пуп свету.

**СЭРЦАЙКА**

 